КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 18 (290) ◂ 4 мая ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**АЛЕГ ХАМЕНКА**

Стар. 14

**ПЕРАСТУПАЮЧЫ ПРАЗ НЯБОЖЧЫКАЎ**

Чым больш жорсткая «вертыкаль» улады, тым вышэйшы ўзровень прававога нігілізму, бо па-іншаму кіраваць грамадствам у «ручным рэжыме» немагчыма

Стар. 4

**М'ЯНМА: АСЦЯРОЖНА, ДЗВЕРЫ АДЧЫНЯЮЦЦА**

У краіну пачалі пускаць першых замежных турыстаў, адным з якіх стаў казахскі журналіст Сяргей Грышын. Ён падзяліўся з журналістам НЧ Алегам Новікавым сваімі ўражаннямі

Стар. 12

**СВЯТА СТАРАЖЫТНАЙ МУЗЫКІ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144



**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НАШ СУАЙЧЫННІК АДОЛЬФ ЯНУШКЕВІЧ**

Нарыс Лявона Целеша

▸ **З НАГОДЫ**

# ШЧЫЛЬНЫЯ ШЭРАГІ, НІЗКАЯ ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ

**Вольга ХВОІН**

**На гэтым тыдні Беларусь адзначала свята працы — Першамай. Афіцыйны прафсаюз святкаваў у цэнтрах гарадоў з шашлыкамі, танным алкаголем і мітынгамі, незалежным прафсаюзам у маёўках адмовілі. Можна сказаць, што саму наяўнасць незалежных прафсаюзаў у краіне ўлады ўспрымаюць негатыўна. Бо апошнія часта становяцца рупарам незадаволеных грамадзян.**




Што абмяркоўвалі сябры афіцыйнага прафсаюзу на дазволеным мітынгу ў Дзень працы? Еўрапейскія цэны і беларускія заробкі ў краіне, рост траўматызму на вытворчасці, ахову працы? Не, у Мінску старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ) Леанід Козік асудзіў тых людзей, што заклікаюць Еўропу да санкцый супраць беларускага рэжыму, гаварыў пра падтрымку курсу дзяржавы.

Удзельнікі мітынгу прафсаюзаў у сталіцы прынялі рэзалюцыю, у якой выказваецца падтрымка курсу Аляксандра Лукашэнкі «на пабудову сацыяльна арыентаванай дзяржавы». У рэзалюцыі выказваецца пратэст супраць «спробаў увядзення Еўрапейскім саюзам эканамічных санкцый у дачыненні да гаспадарчых суб'ектаў Беларусі» і патрабаванне зняць усялякія абмежаванні ў супрацоўніцтве ЕС і Беларусі. У антуражы мітынгу быў і плакат з надпісам: «Правакатараў, якія выказваюцца за эканамічныя санкцыі адносна Беларусі, да адказу!». Гаварыць пра прычыны, што былі нагодай для гэтых санкцый, мітынгоўцы не сталі.

Членамі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі фармальна з'яўляюцца каля чатырох мільёнаў рабочых, якія працуюць у розных галінах гаспадаркі. Незалежныя прафсаюзы аб'ядноўваюць цяпер каля сямі тысяч чалавек. Летась у час эканамічнага крызісу на некаторых прадпрыемствах людзі пісалі заявы на выхад з ФПБ і выказвалі намер стварыць суполкі незалежных прафсаюзаў, аднак гэтыя планы сустракалі сур'ёзныя перашкоды. Што і не дзіўна — сённа дазволіць рабочым аб'яднацца без нагляду дзяржавы, заўтра яны шчыльнымі шэрагамі паўстануць за абарону сваіх правоў. Навейшая гісторыя Польшчы і прафсаюзу «Салідарнасць» — яскравы прыклад, да чаго гэта можа прывесці. Цяпер жа Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі нязручнасцяў уладам не стварае, хутчэй наадварот, выконвае мабілізацыйныя функцыі падчас патрэбных нагодаў. Напрыклад, трэба арганізаваць людзей пайсці на мітынг, канцэрт, сустрэчу з ветэранамі — прафсаюз дапаможа.

Разам з тым ёсць шэраг праблемных момантаў, на якія ні ўлады, ні ФПБ не звяртаюць увагі. Напрыклад, у 2010 годзе Амстэрдамскі інстытут паглыбленых даследаванняў рынку працы зрабіў аналіз занятасці жанчын у Беларусі. Даследчыкі выявілі, што сярэдняя гендэрная розніца ў заробках для галін гаспадаркі, не звязаных з вытворчасцю (паслугі, адукацыя, дзяржслужба) складае 27% (звесткі на 2008 год). То бок жанчыны ў сярэднім атрымліваюць амаль на трэціну менш за мужчын на аналагічных пасадах, аднак ФПБ ніколі не ладзіў хаця б публічных дыскусій на гэтую тэму.

Увогуле, давер да прафсаюзаў, калі меркаваць па дадзеных нацыянальнага апытання НІСЭПД 2011 года, у краіне даволі нізкі. Амаль палова дарослага насельніцтва (45,7%) не адчувае сябе абароненымі ад самавольства ўладаў. Пры гэтым 48% упэўненыя, што ў працоўных наогул няма магчымасці абараніць свае інтарэсы. У выпадку канфлікту з працадаўцам у прафсаюзную арганізацыю па дапамогу звярнуліся б усяго 8,4%, у той час, як амаль 30% рэспандэнтаў здаліся б на літасць працадаўцы, а яшчэ амаль 26% — папросту сышлі б з працы.

Цікава, што пра нізкую эфектыўнасць афіцыйнага прафсаюзу выказваліся нават прадстаўнікі вертыкалі. Так, у студзені гэтага года афіцыйнае выданне Брэсцкага аблвыканкама газета «Заря» цытавала кіраўніка вобласці Канстанціна Сумара, які распякаў афіцыйны прафсаюз за недзеяздольнасць, ад чаго людзі і бягуць у незалежныя прафсаюзы. Не апошняй нагодай для гневу, відаць, стаўся канфлікт на «Граніце» ў Мікашэвічах (Брэсцкая вобласць), дзе фактычна кожны пяты рабочы напрыканцы мінулага года напісаў заяву пра выхад з ФПБ з намерам стварыць суполку незалежнага прафсаюзу, які б рэальна абараняў правы.

«Прафкамы, што прызвычаіліся працаваць у цяплічных умовах стабільнасці, далёка не заўсёды паспяваюць зрэагаваць на хутка зменлівую сітуацыю. Не заўсёды апраўдана зрошчванне інтарэсаў некаторых кіраўнікоў прафсаюзаў і прадпрыемстваў, адсутнасць у тых і іншых жывых зносінаў з шараговымі работнікамі, самазаспакоенасць асобных прафсаюзных лідараў, на якіх расслабляльна дзейнічае існуючы парадак аўтаматычнага ўтрымання прафсаюзных унёскаў з заробкаў. Работнікаў асобных прадпрыемстваў часта абурае не столькі іх заробак, колькі розніца паміж іх заробкамі і заробкамі кіраўнікоў прадпрыемстваў і прафсаюзаў», — упікаў Сумар арганізацыю, што па вызначэнню мусіць займацца абаронай правоў рабочых.

Цікавы факт, што на фоне падзення рэйтынгаў даверу да дзяржаўных інстытутаў не адбылося і адэкватнага росту рэйтынгаў даверу да структур грамадзянскай супольнасці, у тым ліку і незалежных прафсаюзаў (2010 г. — 33,3%, 2011 г. — 33,5%). Прафсаюзная дзейнасць, сяброўства і ўдзел у працы прафсаюзаў цяпер не ёсць нечым прывабным і шматабяцаючым на перспектыву. Сяброўства ў ФПБ хіба што гарантуе падарункі на Новы год, сяброўства ў незалежным прафсаюзе — праблемы з дзяржаўным працадаўцам.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БЯРОЗАЎКА. КАНФІСКАВАЛІ «НОВЫ ЧАС»

**Увечары 27 красавіка мясцовыя міліцыянты перахапілі 800 асобнікаў газеты «Новы Час».**

Гэтая частка накладу нашага афіцыйна зарэгістраванага выдання перасылалася бярозаўскім актывістам, якія з'яўляюцца легальнымі грамадскімі распаўсюднікамі «Новага часу».

«На аўтастанцыі нас чакала засада. Як толькі мы атрымалі газеты, на нас адразу наляцелі мясцовыя праваахоўнікі. Ёсць падставы меркаваць, што аперацыя па нашаму затрыманню і канфіскацыі газет была здзейснена на загад беларускіх спецслужбаў», — расказаў каардынатар Руху «За Свабоду» па Гродзеншчыне Сяргей Трафімчык.

Сяргей Трафімчык і актывіст Руху «За Свабоду» Вітольд Ашурак былі дастаўленыя ў мясцовы пастарунак міліцыі блізу 20 гадзінаў вечара. Там быў складзены акт аб канфіскацыі друкаванай прадукцыі. Супрацоўнікі міліцыі хацелі ўзяць з затрыманых пісьмовыя тлумачэнні, аднак тыя іх даваць адмовіліся.

**Паводле Руху «За Свабоду»**

### ГРОДНА. БЕЛЫ РОВАР НА МЕСЦЫ ТРАГЕДЫІ

**На вуліцы Янкі Купалы мінакі могуць заўважыць «прыпаркаваны» белы ровар. Па традыцыі шматлікіх краін так шануюць памяць загінулых раварыстаў.**

«Ghost Bike», ці «Душа раварыста», з'яўляецца не толькі сімвалам жалю па памерлых, але і перасцярогай для жывых удзельнікаў руху.

Год таму, 20 красавіка, на гэтым месцы пад коламі тралейбуса загінула маладая жанчына. Ровар у яе гонар усталявала сям'я і сябры.

Усяго ў 2011 годзе на дарогах Беларусі адбыўся наезд на 431 раварыста.

**«Твой Сыль»**

### БРЭСТ. СУД ПРЫЗНАЎ ПАРУШЭННЕ ПРАВА

**Каардынатар Руху «За Свабоду» ў Брэсце Дзяніс Турчаняк праз абласны суд здолеў атрымаць права на магчымасць скардзіцца ў суд першай інстанцыі на дзеянні абласной выканаўчай улады.**

Падставай для звароту ў судовую ўстанову абласнога ўзроўню стала тое, што раней суд Ленінскага раёна Брэста двойчы адмаўляў Турчаняку ва ўзбуджэнні справы па скарзе на бяздзеянне аблвыканкама. У гэтай скарзе грамадскі актывіст спрабаваў давесці, што абласныя ўлады наўмысна ігнаруюць патрабаванне распачаць адміністратыўны працэс у дачыненні да намесніка старшыні Брэсцкага гарвыканкама Вячаслава Хафізава. Гэты чыноўнік адмовіўся прадастаўіць Турчаняку копіі рашэнняў гарвыканкама, з якіх актывіст спадзяваўся даведацца пра лёс некаторых аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны Брэста.

У выніку абласны суд прыняў рашэнне, з якога вынікае, што Дзяніс Турчаняк мае права падаваць скаргу ў суд першай інстанцыі на аблвыканкам у адпаведнасці з Працэсуальным кодэксам аб адміністратыўных правапарушэннях. Сам актывіст Руху «За Свабоду» ужо заявіў, што абавязкова скарыстаецца такой магчымасцю.

**spring96.org**

### ГОРКІ. УЗАРВАЛІ СТОГАДОВУЮ ВЕЖУ

**Воданапорная вежа месцілася ў цэнтры Горак недалёка ад плошчы Якубоўскага, якую зараз рэканструююць. Знос вежы звязаны з падрыхтоўкай горада да «Дажынак».**

У вежы хацелі зрабіць кавярню, а пасля перадумалі, піша сайт horki.info.

Спецыялісты ўзарвалі 46-метровую воданапорную вежу ў панядзелак, 30 красавіка. Былі выкарыстаны 20 кілаграмаў выбухоўкі. Паглядзець, як з дапамогай узрыву будуць зносіць вежу, сабралася шмат ахвотных. Пераважала моладзь. Выбух склаў вежу, як карткавы домік. Тэлеканал АНТ адзначае, што гэта была самая высокая воданапорная вежа ў краіне.

Тым часам, у Пінску прадалі воданапорную вежу, а ў Брэсце, таксама як і ў Горках, узарвалі.

**Паводле euroradio.fm**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ДВАЙНАЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ «ВЯСНЫ»

**Генадзь КЕСНЕР**

**Фотаальбом «За правы на выбар» і зборнік «Наша Вясна» прэзентавалі 2 мая актывісты Праваабарончага цэнтра «Вясна».**

На прэзентацыю, якая прайшла ў сядзібе Партыі БНФ, прыйшлі журналісты, праваабаронцы з іншых арганізацый, а таксама былыя палітвязні і родзічы тых, хто яшчэ знаходзіцца ў вязніцах.

Фотаальбом «За права на выбар» прысвечаны фігурантам «Плошчы–2010», якія трапілі пад крымінальны пераслед. Як адзначаюць укладальнікі, гэта «трагічная старонка гісторыі нашай краіны ў асобах, за кожным з кадраў — канкрэтны лёс, выпрабаванне і… перамога. Але, на жаль, не адна на ўсіх».

«Падзеі 19 снежня не скончыліся для нас і зараз. ...Тыя людзі, якія былі асуджаныя за падзеі 19 снежня, дагэтуль застаюцца ў турмах. ...Менавіта год таму, у красавіку-траўні пачаліся бяспынныя канвееры па разгляду крымінальных справаў па падзеях 19 снежня практычна ва ўсіх раённых судах Мінска. І мы, і журналісты, і нашы калегі-праваабаронцы адсочвалі ўсе гэтыя працэсы і былі сведкамі таго беззаконня, якое рабілася ў тыя дні ў судах»,— падкрэсліў намеснік старшыні «Вясны» Валянцін Стэфановіч.

Прадмову да выдання планаваў напісаць Алесь Бяляцкі, але кіраўнік «Вясны» сам стаўся палітвязнем. Таму напісаць уступ даваліся кандыдату гістарычных навук, галоўнаму рэдактару «Новага часу» Аляксею Каралю.

«На мой погляд, «Плошча–2010» ёсць знакавая падзея. Будучыя гісторыкі гэтую дату, хутчэй за ўсё, аднясуць да пачатку апошняй фазы рэжыму, які ўсталяваўся ў Беларусі ад 1994 года… Рэпрэсіўны механізм на поўную моц быў запушчаны менавіта 19 снежня 2010 года. Падзея драматычная, шмат у чым трагічная, і разам з тым падзея аптымістычная… Плошча сабрала ад 30 да 50 тысяч чалавек. Хапіла маленькай паўзы, крыху лібералізацыі, каб страх рассеяўся. ...Задача нумар адзін, якая была пастаўленая ўладамі 19 снежня, — аднавіць узровень страху, які панаваў раней, — пацярпела крах, і гэты страх не адноўлены».

Са словамі падзякі да праваабаронцаў звярнуліся жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч і былы палітвязень Алег Федаркевіч.

Таксама 2 мая адбылася прэзентацыя кнігі «Наша Вясна». Гэта зборнік васямнаццаці інтэрв'ю з актывістамі арганізацыі, у тым ліку і рэгіянальнымі. Па словах сябра Рады «Вясны» Таццяны Равякі, выдаць гэтую кнігу меркавалася яшчэ год таму, да 15-годдзя праваабарончага цэнтра, але падзеі, якія паследавалі за «Плошчай–2010», адсунулі планы на больш позні час. Ініцыятарам з'яўлення кнігі быў Алесь Бяляцкі.

Дарэчы, вясноўцы паведамілі, што прэзентацыі дзвюхмоўнага (беларуская і англійская) фотаальбому «За права на выбар» адбудзецца ў пяці краінах Еўрапейскага саюза.

ІНІЦЫЯТЫВА

# У ПАМЯЦЬ АХВЯРАЎ ВАЙНЫ 1812 ГОДА

**Марат ГАРАВЫ**

**Запланаваныя мерапрыемствы ў памяць ахвяраў вайны 1812 года. Пра гэта паведаміў старшыня грамадскага камітэта «Вялікая Літва — гістарычная памяць Беларусі», мастак і грамадскі дзеяч Мікола Купава.**

У гэтым годзе спаўняецца 200 гадоў паходу на Вялікае Княства Літоўскае войскаў Напалеона Банапарта і ўдзелу жыхароў ВКЛ у вайне 1812 года. «Пасля захопу Расійскай імперыяй зямель ВКЛ Масква ўсклала на мясцовае насельніцтва грабежніцкі падатак, нашмат большы, чым на жыхароў расійскіх губерні. У ВКЛ былі ўведзены рэкруцкія наборы, чаго раней не ведаў наш край. Каля 500 тысяч вольных сялян расійскія ўлады зрабілі прыгоннымі і раздалі сваім памешчыкам. Беларускія гарады пазбавілі самакіравання па Магдэбургскаму праву. У 1812 годзе з беларускіх зямель у расійскае войска было выстаўлена больш за 130 тысяч жаўнераў, дзякуючы чаму агульная колькасць жыхароў нашага краю ў войску імперыі склала звыш 220 тысяч чалавек. Тысячы з іх загінулі ў розных паходах, бітвах і войнах, якія вяла Расія напрыканцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў», — адзначыў Купава.

Пасля абяцання Напалеона аднавіць ВКЛ і пераходу французскай арміі праз Нёман многія юнакі-ліцвіны сталі запісвацца ў напалеонаўскую армію. «На патрабаванне імператара Францыі Рада ВКЛ абяцала апрануць і пасляць у армію Напалеона 100 тысяч сваіх жаўнераў. На справе на баку французаў прынялі ўдзел 25 тысяч ураджэнцаў Беларусі, у тым ліку конніца князя Радзівіла. Па волі чужынцаў нашы жаўнеры мусілі часцяком ваяваць адзін супраць аднаго і станавіліся ахвярамі захопніцкай палітыкі Францыі і Расіі», — сказаў Купава.

Прымаючы пад увагу вялікі след у айчыннай гісторыі, які пакінула вайна 1812 года, а таксама неабходнасць захаваць памяць пра загінулых жаўнераў і мірных жыхароў Беларусі, грамадскі камітэт запланаваў шэраг мерапрыемстваў. Сярод іх — міжнародная канферэнцыя з удзелам навукоўцаў Беларусі і краін Еўропы (чэрвень), выстава сябраў Беларускага саюза мастакоў «Нашэсце» (чэрвень), выпуск памятных плакатаў, календара і паштоўкі, а таксама канцэрт-рэквіем (лістапад).

Свае прапановы па ўдзелу ў мерапрыемствах трэба накіроўваць у грамадскі камітэт. Мабільны тэлефон для кантактаў: 8-029-551-32-36.

СМІ

# УЖО НА 193-М МЕСЦЫ

**Вашынгтонская няўрадавая арганізацыя Freedom House панізіла рэйтынг свабоды слова ў Беларусі.**

Згодна з апублікаваным на сайце арганізацыі 1 мая рэйтынгам «Свабода прэсы–2012» краіна займае 193-е месца са 197. У папярэднім штогадовым рэйтынгу яна займала 190-е месца.

У васьмёрку самых праблемных краін сёлета таксама ўвайшлі Іран, Куба, Паўночная Карэя, Туркменістан, Узбекістан, Экватарыяльная Гвінея і Эрытрэя.

«У гэтых краінах незалежных СМІ або не існуе, або яны не могуць функцыянаваць, прэса выказвае меркаванне рэжыму, доступ грамадзян да непрадузятай інфармацыі абмежаваны, а іншадумства падаўляецца шляхам арыштаў, катаванняў і іншых рэпрэсій», — падкрэслівае Freedom House.

Першае месца ў рэйтынгу адведзена Нарвегіі, Фінляндыі і Швецыі.

Польшча, а таксама Славенія, Тайвань, Трынідад і Табага занялі 47-ю пазіцыю.

Расія падзяліла 172-е месца з Азербайджанам і Зімбабве.

ПАМЯЦЬ

# ЗАБЫТЫ ЎЛАДАМІ АЛЕГ ЛОЙКА

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**1 мая — дзень нараджэння славутага слонімца, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алега Лойкі (1931–2008).**

Сябры дэмакратычнага згуртавання Слоніма ў гэты дзень наведалі магілу Алега Антонавіча на гарадскіх могілках у Слоніме і ўсклалі кветкі.

На вялікі жаль, прайшло амаль чатыры гады пасля смерці вялікага беларуса, а памяць пра Алега Лойку ўладамі Слоніма так і не ўшанавана. А падчас пахавання чыноўнікі са Слонімскага райвыканкама ўсіх запэўнівалі, што ў горадзе, дзе нарадзіўся вялікі літаратар, дзе вучыўся, дзе жыў ён у апошнія гады свайго жыцця, будзе ўшанавана памяць пра яго.

«У бліжэйшы час імем Лойкі будзе названа адна з вуліц горада, на школе, дзе ён вучыўся, будзе ўстаноўлена мемарыяльная шыльда, а лепшыя вучні школы будуць узнагароджвацца стыпендыяй імя Алега Лойкі і г.д.», — казалі ідэолагі са Слонімскага райвыканкама. Але нічога так і не было зроблена па ўшанаванню яго памяці.

Абышлі бокам чыноўнікі і 80-годдзе Алега Лойкі, якое летась адзначалася. Не дапамаглі ўшанаванню памяці былога дэкана філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта і выкладчыкі БДУ, якія таксама шмат абяцалі, але нічога не зрабілі. Сумна ад усяго гэтага і горка.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПЕРШАМАЙ АДЗНАЧЫЛІ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У Беларусі адзначылі Першамай — хто як мог. Хто не мог — не адзначалі. Традыцыйна «свята працы» было аддадзенае афіцыйным прафсаюзам. А тыя, хто займаецца абаронай правоў працоўных, апынуліся збоку.**




Міжнародны дзень салідарнасці працоўных публічна дазволілі адзначаць Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ). Незалежным прафаб'яднанням і прадстаўнікам апазіцыі праводзіць якія-небудзь масавыя мерапрыемствы было забаронена як у Мінску, так і ў рэгіёнах.

У Беларусі свята працы было заснавана ўказам кіраўніка дзяржавы ў сакавіку 1998 года. Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных адзначаюць больш як у 140 краінах. У яго аснове ляжаць падзеі 1 мая 1886 года, калі актывісты рабочага руху ЗША і Канады правялі серыю мітынгаў і дэманстрацый, патрабуючы ўвядзення васьмігадзіннага працоўнага дня.

Афіцыйны мітынг з удзелам кіраўніцтва ФПБ і прадстаўнікоў органаў улады прайшоў у мінскім парку імя Янкі Купалы. Яго ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю з падтрымкай «курсу на пабудову сацыяльна арыентаванай дзяржавы», які праводзіць Аляксандр Лукашэнка. У рэзалюцыі таксама ўтрымліваецца пратэст супраць «спроб увядзення Еўрапейскім саюзам эканамічных санкцый у дачыненні да гаспадарчых суб'ектаў РБ» і патрабаванне «зняцця ўсякіх абмежаванняў у супрацоўніцтве ЕС і РБ». Афіцыйныя мерапрыемствы прайшлі ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах краіны.

Мітынг апазіцыі ў парку Дружбы народаў Мінгарвыканкам забараніў у сувязі з запланаванымі там афіцыйнымі гуляннямі. Гэтую забарону лідар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін пракаментаваў так: «Улады плююць на Канстытуцыю, на артыкул 35, які гарантуе свабоду сходаў і вулічных шэсцяў. Закон аб масавых мерапрыемствах стаў забаронай на іх правядзенне, улады нават не знаходзяць час нармальна раслумачыць прычыны адмовы ў правядзенні вулічных мерапрыемстваў, не жадаюць размаўляць з арганізатарамі пра перанос часу і месца акцыі».

Першамайскі апазіцыйны мітынг таксама забаронены ў Мікашэвічах (Лунінецкі раён Брэсцкай вобласці). Акцыя планавалася ў падтрымку рабочых мясцовага РУВП «Граніт», якія выйшлі з афіцыйнага прафсаюза і абвясцілі пра намер стварыць незалежную прафсаюзную арганізацыю, за што зведваюць ціск з боку адміністрацыі.

Сітуацыя з правамі незалежных прафсаюзаў у Беларусі не проста не паляпшаецца — назіраецца новы віток нацiску на незалежныя прафаб'яднанні, заяўляе лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) Аляксандр Ярашук.

«Не рэгіструецца «пярвічка» Беларускага незалежнага прафсаюза на РУВП «Граніт». Адмоўлена ў заключэнні калектыўнай дамовы з сябрамі незалежнага прафсаюза на ААТ «Нафтан». Адзначаны факты дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыналежнасці на Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў, націск на нашых актывістаў на «Белшыне», Мазырскім НПЗ і, напэўна, упершыню — на сябраў незалежнага прафсаюза гарнякоў на «Беларуськаліі», — прывёў канкрэтныя прыклады старшыня БКДП.

Паводле слоў Ярашука, гэтыя факты, а таксама забарону на правядзенне першамайскіх мітынгаў у розных рэгіёнах краіны можна кваліфікаваць як чарговае абвастрэнне сітуацыі з правамі прафсаюзаў. «Улада прэвентыўна спрабуе засцерагчы сябе ад магчымых праблем з працоўнымі з-за сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, не даючы ім магчымасці аб'ядноўвацца для адстойвання сваіх інтарэсаў», — лічыць прафсаюзны лідар.

Такім чынам, падкрэсліў ён, улады Беларусі дэманструюць, што «не збіраюцца выконваць як свае ўласныя законы, так і рэкамендацыі Міжнароднай арганізацыі працы па выпраўленні парушэнняў правоў прафсаюзаў».

Варта адзначыць, што сітуацыя з захаваннем правоў прафсаюзаў у Беларусі будзе абмяркоўвацца на пасяджэнні камітэта па нормах і стандартах Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), якое пройдзе ў Жэневе 4–9 чэрвеня. У 2003 годзе МАП канстатавала факты грубага парушэння беларускімі ўладамі правоў прафсаюзаў пасля адпаведнага расследавання. У 2007 годзе за парушэнне правоў прафсаюзаў Беларусь выключылі з Генеральнай сістэмы прэферэнцый Еўрасаюза. Для вяртання ў сістэму прэферэнцый урад павінен выканаць шэраг рэкамендацый МАП. У іх ліку — неўмяшанне дзяржавы ў дзейнасць прафсаюзаў, спыненне пераследу грамадзян па прафсаюзнай прыналежнасці, удзел усіх прафсаюзных аб'яднанняў у вырашэнні важных сацыяльных праблем краіны і іншыя.

**Сітуацыя з правамі незалежных прафсаюзаў у Беларусі не проста не паляпшаецца — назіраецца новы віток націску на незалежныя прафаб'яднанні, заяўляе Аляксандр Ярашук**

Але ж сход ініцыятыўнай групы па змяненні выбарчага заканадаўства ўсё ж адбыўся. У сходзе, які арганізаваў экс-кандыдат у прэзідэнты, былы палітзняволены Дзмітрый Ус, узялі ўдзел каля 170 чалавек.

«Гэтага дастаткова для рэгістрацыі Цэнтрвыбаркамам ініцыятыўнай групы па ўнясенні змяненняў у заканадаўства», — паведаміў Дзмітрый Ус.

Мерапрыемства прайшло 1 мая пад адкрытым небам у Мінску ў раёне вуліцы Арлоўскай. Яно не анансавалася ў СМІ і не афішавалася, каб не прыцягваць увагу спецслужбаў. Тым не менш, за прысутнымі назіралі супрацоўнікі праваахоўных органаў, якія здымалі ўсё на відэакамеру.

Разам з тым, некаторым актывістам з рэгіёнаў, якія планавалі ўзяць удзел у сходзе, не ўдалося дабрацца да Мінска. У Брэсцкай вобласці 1 мая раніцай былі затрыманыя сем актывістаў дэмсіл: трое — у Кобрынскім раёне (Віктар Катрыч, Станіслаў Фядзько і Ілья Лабушняк), чацвёра — у Баранавічах (Вячаслаў Болбат, Рыгор Грык, Арцём Бабей і Аляксандр Давыдаў). Праз некалькі гадзін іх адпусцілі. Паводле наяўных звестак, яшчэ адзін грамадскі актывіст быў затрыманы ў Віцебску.

Неабходнасць змянення выбарчага заканадаўства была адной з галоўных ідэй перадвыбарнай праграмы Дзмітрыя Уса на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года. Палітык лічыць неабходным унесці змяненні ў артыкулы 34, 35 і 72 Выбарчага кодэкса, каб кандыдаты мелі права накіроўваць ва ўчастковыя камісіі сваіх прадстаўнікоў, спіс якіх павінен быць пададзены за 15 дзён да галасавання. Прадстаўнікам кандыдата павінны выдаваць пасведчанні членаў выбаркамаў на працягу трох дзён. Акрамя таго, членам камісіі, якія прадстаўляюць кандыдатаў, павінна быць дадзена права ставіць свой подпіс на зваротным баку кожнага бюлетэня. Гэта, на думку Уса, дазволіць пазбегнуць незаконнага ўкідвання бюлетэняў у скрыні ў ходзе датэрміновага галасавання і фальсіфікацый падчас падліку галасоў.

Але ці прызнае гэты сход легітымным Мінюст разам з Цэнтрвыбаркамам? Гэта вялікае пытанне.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ



Былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч напісаў у лісце да сваёй жонкі Марыны Адамовіч, што не мае намеру падпісваць прашэнне аб памілаванні. Нагадаем, кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што палітвязні, калі хочуць выйсці на свабоду, мусяць напісаць да яго прашэнне.

«З часу майго апошняга ліста дайшла інфармацыя пра многія падзеі. Шчыра ўзрадавала навіна аб вызваленні Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі. Рады за іх і іх сям'і. Але, даруй, мая родная, гэты шлях на свабоду для мяне непрымальны. Я не здольны здрадзіць сабе, не здольны прынізіць тых людзей, якія збіралі подпісы за мяне, ставілі подпісы за маё вылучэнне, галасавалі за мяне, выйшлі на мой прызыву на плошчу», — працытавала Марына Адамовіч БелаПАН вытрымку з ліста Статкевіча.

Мікалай Статкевіч асуджаны да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года.

### ЛЯПІС ТРУБЯЦКОЙ

Гурт «Ляпіс Трубяцкой» прадставіў інтэрнэт-аўдыторыі свой новы альбом «Рабкор». Альбом у вольным доступе ёсць у інтэрнэце.

«Першамай — гэта выдатная дата для новага рэлізу «Ляпісаў», — мяркуе прадзюсар гурта Яўген Калмыкоў. — Салідарнасць працоўных для нас — не пусты гук і не прапагандысцкі штамп. І мы вельмі спадзяемся, што наша новая кружэлка падтрымае тых, хто змагаецца за праўду і справядлівасць, дзе б яны ні знаходзіліся».



«Рабкор» — гэта вельмі ёмістае і шматзначнае паняцце, — анансаваў альбом лідар гута Сяргей Міхалок. — З аднаго боку, гэта гучыць як назва музычнага стылю, па аналогіі з хард-корам, брэйк-корам, ска-корам, гэта такая музыка паўсталых рабоў. І я магу сказаць, што новы альбом будзе самым лютым і жорсткім з усіх, калі-небудзь зробленых групай «Ляпіс Трубяцкой». З іншага боку, «Рабкор» — гэта скарачэнне ад старога паняцці «працоўны карэспандэнт». А мы цяпер будзем займацца менавіта музычнай журналістыкай — у сэнсе напісання песень-перадавіцаў па гарачых слядах падзей. Тое, што песні, напісаныя па такім прынцыпе, могуць хутка састарэць — гэта мяне не хвалюе. Больш за тое, я да гэтага імкнуся! Я мару пра тое, каб праз 5 ці 10 гадоў людзі наогул не разумелі, пра што мы спявалі ў 2012 годзе. Каб усе гэтыя праблемы зніклі з жыцця людзей. І тады мы зноў вернемся да песень пра каханне, кветачкі і Млечны шлях».

### АКСАНА МЯНЬКОВА

Алімпійская чэмпіёнка Пекіна–2008 у кіданні молата Аксана Мянькова на турніры ў Брэсце на прызы заслужанага трэнера СССР Яўгена Шукевіча ўстанавіла рэкорд Беларусі — 78 метраў 19 сантыметраў. Гэта лепшы вынік сезона ў свеце.

У мужчын далей за ўсіх молат кінуў лідар сусветнага сезона (79,37) Павел Крывіцкі — 79,10 метра.

«Вядома, я рада, што ўдалося паказаць добры вынік, устанавіць нацыянальны рэкорд і выканаць алімпійскі кваліфікацыйны нарматыў. Пасля нараджэння дачкі я вяла мэтанакіраваную падрыхтоўку да гэтага алімпійскага года. Планавала выканаць нарматыў на гэтым турніры, кінуўшы ў раёне 75 метраў. Але вынік перавысіў мае чаканні. Цяпер будзе яшчэ больш напружаны перыяд — непасрэдная падрыхтоўка да Алімпійскіх гульняў у Лондане», — распавяла Аксана Мянькова ў інтэрв'ю прэс-службе Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

Раней Аксана Мянькова тлумачыла, чаму пасля Алімпійскіх гульняў 2008 года крыху адышла ад спорту. «У 2008 годзе я выйграла Алімпійскія гульні і Кубак Еўропы, і вырашыла нарадзіць дзіця і зрабіць невялікі перапынак перад Гульнямі–2012, кіраўніцтва нацыянальнай зборнай і федэрацыі мяне падтрымала. Гэта было вельмі важна, бо для кожнай жанчыны неабходна адбыцца не толькі ў прафесійным плане, але і ў асабістым жыцці», — распавяла спартсменка.



АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПЕРАСТУПАЮЧЫ ПРАЗ НЯБОЖЧЫКАЎ

Сяргей НІКАЛЮК

**Чым больш жорсткая «вертыкаль» улады, тым вышэйшы ўзровень прававога нігілізму, бо па-іншаму кіраваць грамадствам у «ручным рэжыме» немагчыма.**




Чарговую «Азбуку паліталогіі» я планаваў прысвяціць пасланню «адзінага палітыка» (АП), але штосьці на вяршыні ўладнай «вертыкалі» не спрацавала, і абвешчаная на 19 красавіка падзея не здарылася. АП узяў паўзу. Вось і давялося мне ў пошуках тэмы звярнуцца да свайго камп'ютарнага архіву.

Адкрыў адзін з файлаў-загатовак, названы «Акупацыя». Ён утрымліваў усяго дзве нататкі: «чыноўнік гаспадарнічае ў краіне як заваёўнік» (Аляксей Давыдаў, культуролаг) і «Бацька, Кіеў, 1933». Пагадзіцеся, няшмат. Аднак тэрмін здачы артыкулу падціскаў, і я мусіў пачаць працу.

## Па дарозе ў школу

Да перабудовы Гарбачова мае веды ў галіне гуманітарных навук абмяжоўваліся стандартным курсам марксізму-ленінізму. Асаблівых пярэчанняў ён не выклікаў. Адзінае выключэнне — 1937 год. У мяне быў уласны погляд на прычыны сталінскіх рэпрэсій. Я лічыў, што пасля таго, як партыя бальшавікоў стала кіроўнай, яна перарадзілася ў своеасаблівы пыласос, што збіраў кар'ерыстаў. Да 1937 года канцэнтрацыя кар'ерыстаў ва ўладзе дасягнула крытычнай масы, і яны зладзілі контррэвалюцыйны пераварот — знішчылі «ленінскую гвардыю».

Часопіс «Огонек» зруйнаваў маю паліталагічную канструкцыю. «Гвардзейцы» апынуліся не ахвярамі, а катамі, што разгарнулі рэпрэсіі супраць уласнага народа ўжо на наступны дзень пасля захопу ўлады. З «Огонька» я ўпершыню даведаўся і пра Галадамор з яго мільёнамі ахвяр.

Я звярнуўся да бацькі, каб высветліць падрабязнасці. Ён нарадзіўся ў Кіеве ў 1921 годзе і падзеі 1933 года павінен быў памятаць. І ён памятаў, ды і ці можа забыцца дванаццацігадовае дзіця, як па дарозе ў школу яму часам даводзілася пераступаць праз нябожчыкаў?! Днём памерлых прыбіралі, але на наступную раніцу яны з'яўляліся зноў. Такі жыццёвы досвед не зрабіў з майго бацькі дысідэнта. У партыю ён уступіў на фронце, і пасля развалу СССР не здаў партбілет.

## Абрэвіятура з трох літар

«Акупацыя» (лац. occupation) — ключавое слова гэтай «Азбукі паліталогіі». Яго слоўнікавае значэнне: «часовае займанне ўзброенымі сіламі дзяржавы тэрыторыі іншай дзяржавы без набыцця суверэнных правоў на яе». Як будзе паказана ніжэй, часовае лёгка трансфармуецца ў пастаяннае, знешняя акупацыя — ва ўнутраную. Гэта дазваляе акупантам набываць суверэнныя правы на занятую тэрыторыю. Для далейшага руху па шляху азбукавага аналізу нам спатрэбіцца абрэвіятура КПК (круг прамых камунікацый), запазычаная з тэорыі кіравання.

Кожнаму з нас уласцівыя фундаментальныя абмежаванні па выкарыстанні інфармацыі. З гэтай прычыны сацыяльныя супольнасці, заснаваныя на прамых камунікацыях сваіх чальцоў, абмежаваныя ў памерах. Памеры КПК дарослай асобы складаюць прыкладна 100 чалавек і не залежаць ад канкрэтных формаў чалавечай жыццядзейнасці. З вялікай колькасцю людзей падтрымліваць устойлівыя адносіны мы не здольныя.

Няцяжка здагадацца, што для пераходу ад малых груп да вялікіх чалавецтву неабходна было вынайсці кіроўныя іерархіі, якія сталі папярэднікамі сучасных ўладных «вертыкаляў». Двухузроўневая вертыкаль дазваляе каардынаваць дзейнасць 10 тысяч (100х100) чалавек, трохузроўневая — каля 1 мільёна (100х100х100) чалавек і г. д.

Шматузроўневая сістэма можа будавацца двума спосабамі — на аснове акупацыі (каланізацыі) і на аснове самаразвіцця. Пры першым спосабе абшчына са 100 чалавек захоплівае падобныя ёй абшчыны і, падпарадкоўваючы іх сабе, фармуе мясцовае кіраўніцтва, якое адказвае перад захопнікамі і кантралюе дзейнасць падуладных абшчын. «У гэтым выпадку патрэбныя ставіліся да сваіх падданых як да рэсурсу... каланізатарам культурныя формы ўкараняюцца больш-менш аднолькава ва ўсіх абшчынах, так што захопнікі не маюць патрэбы ў істотным змяненні ўласных паводзін і працягваюць наўпрост і непасрэдна ўмешвацца ў жыццё абшчын. Пры такой каланізацыі сістэматычна душацца мясцовыя культурныя формы і ўкараняецца «ручны рэжым» кіравання» (Уладзімір Пашынскі, сацыёлаг). Істотная дэталь: паміж спецыялістамі па «ручным кіраванні» магчымыя толькі наўпростыя (асобасныя) камунікацыі.

Узгадаем карты з савецкіх падручнікаў гісторыі, якія адлюстроўваюць рост Маскоўскага княства. За кошт чаго адбываўся гэты рост? За кошт акупацыі суседніх тэрыторый. Гэты прынцып, як эстафетную палачку, ад князёў падхапілі цары, затым імператары і генеральныя сакратары. На ўсіх далучаных тэрыторыях акупанты перадавалі ўладу мясцовым адміністрацыям, фактычна ператвараючы іх у акупантаў унутраных.

Дый самі маскоўскія князі ў часы мангольскага іга і выконвалі ролю ўнутраных акупантаў, спраўна збіраючы з падкантрольнага ім насельніцтва даніну на карысць ардынскіх ханаў, за што атрымлівалі ярлык на княжанне. Адносіны такога тыпу (васальныя адносіны) былі шырокая распаўсюджаныя ў сярэднявеччы як у Заходняй Еўропе, так і на ўсходзе. Характэрная дэталь: з заканчэннем іга, падатковая нагрузка на насельніцтва не паменшылася. Унутраныя акупанты заўсёды ставіліся да сваіх падданых як да рэсурсу, імкнуліся здабыць з яго максімум асабістай выгады.

З тых часоў у адносінах паміж уладай і грамадствам мала што змянілася. Дам слова культуролагу Андрэю Пеліпенку: «Пазіцыя ўлады — гэта пазіцыя акупанта, які дыктуе падуладнаму насельніцтву сваю дэспатычную волю. Адзіная магчымая форма зносін з падуладным — маналог. Ідэя дыялогу адмаўляецца ў прынцыпе незалежна ад яго зместу, паколькі ў гэтым выпадку лічыцца, што бакі хоць бы ў нейкай ступені калі нават не роўныя, то сіметрычныя. Такая дыспазіцыя непазбежна руйнуе сакральна-іерархічны статус улады. Статус жа, у сваю чаргу, вызначае і адпаведную карціны свету: акрамя самой Улады (менавіта з вялікай літары) і добрага («правільнага») народа, існуе толькі Вораг (таксама з вялікай літары)».

## Мэра — нельга, прэзідэнта — можна

Зараз пяройдзем да другога спосабу будаўніцтва шматузроўневых сістэм — самаразвіцця. Ужо знаёмы нам Уладзімір Пашынскі адзначае: «Шлях самаразвіцця працілеглы каланізацыі і палягае ў тым, што на аснове добраахвотнага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва чальцоў розных КПК-абшчын асяроддзе са 100 абшчын паступова фармуе агульны орган кіравання са 100 чалавек, у склад якога ўваходзяць па адным прадстаўніку ад кожнай абшчыны. Пры гэтым кожная абшчына захоўвае свае ўласныя культурныя формы, а для каардынацыі дзейнасці вынаходзіцца прынцыпова адрозны ад прамой камунікацыі інстытут, заснаваны на дэлегаванні паўнамоцтваў, — сістэма працэдур і нормаў. Яны аднолькавыя для ўсіх чальцоў супольнасці і забяспечваюць кіравальнасць усёй супольнасці».

Зразумела, кіраванне, заснаванае на ўніверсальных працэдурах і нормах, цалкам не адмяняе прамых камунікацый, але яно дазваляе каардынаваць сумесную дзейнасць з дапамогай камунікацый апасродкаваных.

Прыкладам сістэмы, што самаразвіваецца, з'яўляецца сярэднявечны горад, насельніцтва якога было арганізавана ў шматлікія гільдыі, цэхі, брацтвы і да т. п. Кожная з гэтых адзінак уяўляла больш-менш блізкі аналаг КПК-супольнасці са сваімі ўнікальнымі асаблівасцямі. У сукупнасці ж яны ўтваралі адмысловую цэласнасць, якая кіруецца на аснове права.

Тут мне цяжка ўстрымацца, каб не ўзгадаць героя трох папярэдніх «Азбук паліталогіі» акадэміка Анатоля Рубінава з яго тэорыяй Закона і Парадку, адзінай крыніцай якіх выступае *«сильная централизованная власть»* на чале з важаком. Такая крыніца, як мы бачым, была анахранізмам ужо ў сярэднявечным еўрапейскім горадзе, чыё самакіраванне засноўвалася на Магдэбургскім праве.

Не, акадэмік не «супраць» дэмакратыі, ён дзвюма рукамі «за», але з агаворкай: *«Обществу нужна не демократия как таковая, а оптимальные условия для эффективного саморазвития. И если для данного общества на данном историческом этапе демократия этому способствует, то она подходит, а если мешает, то не подходит»*. Выдатная спасылка на *«данный исторический этап»*. Нагадаю, Брэст атрымаў Магдэбургскае права ў 1390 годзе, Мінск — у 1499-м, а гэта азначае, што ў XIV–XV стагоддзі гарадское самакіраванне спрыяла эфектыўнаму самаразвіццю нашых продкаў. Сёння ж грамадзяне рэспублікі пазбаўлены магчымасці выбіраць мэраў. Гэта, мабыць, галоўная асаблівасць нашага «общества на данном историческом этапе». А як жа тады выбары кіраўніка дзяржавы? Ці можна дапусціць абіраць прэзідэнта тым, хто не ў стане абраць кіраўніка раённага цэнтра?

## «Зверху ўніз» VS «знізу ўверх»

Чым больш жорсткая «вертыкаль» улады, тым вышэйшы ўзровень прававога нігілізму, бо па-іншаму кіраваць грамадствам у «ручным рэжыме» немагчыма. Гэта вам не сярэднявечны горад з яго пастаянным узгадненнем інтарэсаў шматлікіх сацыяльных груп. Невыпадкова галоўны герой маіх апавяданняў сам сябе называе «адзіным палітыкам». Гэта ўнікальнасць азначае, што ў краіне няма палітыкі як такой, г. зн. няма дзейнасці па ўзгадненні нечых інтарэсаў.

Дзеля справядлівасці варта прызнаць, што ў краіне няма і сацыяльных груп, здольных артыкуляваць свае інтарэсы. Гэта прамое следства шматвяковага панавання акупацыйных рэжымаў на беларускай зямлі, якія з маніякальнай зацятасцю знішчалі любыя спробы фармавання інстытутаў самакіравання.

Дамінаванне прамых камунікацый пры акупацыйных рэжымах блакуе развіццё кантролю ў кірунку «знізу ўверх», таму ў якасці кампенсацыі акупанты вымушаны ствараць шматлікія структуры, якія здзяйсняюць кантроль у накірунку «зверху ўніз».

І на заканчэнне «Азбукі паліталогіі» адзначу, што ў наш час акупацыйныя рэжымы сутыкаюцца з сур'ёзнымі праблемамі падчас прыстасавання да акаляючай міжнароднай рэальнасці. Няздольныя арганізаваць унутранае жыццё на аснове ўніверсальных прававых нормаў, яны і адносіны са знешнімі партнёрамі спрабуюць выбудоўваць па лякалах сваёй унікальнасці. Прыклады далёка шукаць не трэба.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПАЛІТЫЧНЫЯ

Ігар АЛІНЕВІЧ



**«Новы час» знаёміў чытачоў з лёсам Ігара Аліневіча, асуджанага на 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. 28-гадовы хлопец праходзіць па акрэсленай журналістамі «справе мінскіх анархістаў». У нас друкавалася размова з маці Ігара Валянцінай Аліневіч. Зараз мы прапануем вытрымкі з артыкула самога Ігара. У працяг дыскусіі пра тое, каго лічыць «палітычным».**

Упершыню ў постсавецкай гісторыі нашай краіны адразу дзясяткі людзей былі арыштаваныя і асуджаныя да суровых пакаранняў (ад умоўных да цалкам рэальных) у сувязі з актуальнымі грамадскімі працэсамі.

Каго лічыць палітычным, а каго — не? Часта ў сучасным ліберальным свеце лічаць палітычнымі вязнямі людзей, якія былі асуджаныя за выключна мірную грамадскую дзейнасць. Адпаведна, палітычная справа — гэта крымінальны пераслед, у якім прысуд заснаваны не на законе, а на нефармальным рашэнні зверху.

Каб разабрацца ў сутнасці з'явы, варта ўзгадаць гістарычныя прыклады. Вялікая Французская рэвалюцыя: і раялісты, і жырандысты, і якабінцы, і «шалёныя» ўвесь час зрыналі адзін аднаго гвалтам. Усе бакі з мушкетамі і пікамі лезлі на ражон, і пачкамі адпраўлялі сваіх апанентаў на гільяціну. Кім лічыць Луізу Мішэль, сасланую на выспу за актыўны ўдзел у Парыжскай Камуне? На барыкадах Манмартра яна зусім не плакаты разлеплівала, а змагалася са стрэльбай у руках. Ці ж Кастусь Каліноўскі, кіраўнік паўстання «касінераў», не ёсць пакутнікам свайго народу? Чым лічыць стрэл Фані Каплан у Леніна — спробай забойства «па бытавусе»? Тыя ж самыя «дзекабрысты»... Спроба вайсковага перавароту! Але хто скажа, што гэта не было самай яскравай палітычнай падзеяй тых гадоў? А тысячы раскулачаных людзей, ахвяраў калектывізацыі ў СССР, якія не змаўчалі, а з абрэзам вартавалі камісараў і савецкіх супрацоўнікаў... Хто іх асудзіць?

Улада ва ўсе часы вызначала палітычных не метадамі, не артыкулам Крымінальнага кодэкса, а матывамі і мэтамі! Так было заведзена сусветнай гісторыяй, і ніхто не можа мяняць гэтае азначэнне, выведзенае пакутамі і крывёю.

Цяпер наконт судовай прадузятасці ў дачыненні нашай «справы анархістаў». Для расследавання г. зв. «хуліганскіх дзеянняў» (ч. 2, арт. 339) былі задзейнічаны Камітэт дзяржбяспекі і Упраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Колькасць аператыўнай групы склала ажно 30 чалавек. Адных падазраваных апынулася 120 чалавек. Асабіста на мяне і майго сябра Дзмітрыя Дубоўскага арганізавалі сапраўдную аблаву ў Маскве за месяц да з'яўлення першых пакаранняў супраць нас. Яшчэ на этапе папярэдняга следства быў зняты і паказаны па беларускім тэлебачанні прапагандысцкі фільм, аўтары якога не пасароміліся выдаць нашы аматарскія тэатральныя здымкі за падпольныя сходы.

Мы атрымалі абвінаваўчыя прысуды, што грунтуюцца на паказаннях людзей, якія, нягледзячы на свой актыўны ўдзел у радыкальных акцыях, ці выйшлі з клеткі ў залі суда (Веткін, Селівончык), ці наогул прайшлі па гэтай справе як сведкі (Канафальскі, Акдыф). Ігнараваліся заявы некалькіх сведак пра ціск з боку следства, няяўка ў суд ключавых сведак, двайны абгавор Дубоўскага з боку Веткіна і Канафальскага, выкрыты падчас судовага працэсу. Да хуліганскіх дзеянняў прыраўнялі нават антывайсковую маніфестацыю ля будынка Генеральнага штаба, што адбылася яшчэ ў верасні 2009 года.

У дачыненні да «бабруйскай справы» (падпал будынку КДБ) таксама ўзнікаюць пытанні: якім чынам фігурантам справы «прыпісалі» ч. 3 арт. 218 (наўмыснае пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры — памеры, які перавышае базавую велічыню ў 1000 і больш разоў), калі пашкоджанне бетоннай сцяны ад «кактэйлю Молатава» было ацэнена ўсяго ў 253 тысяч беларускіх рублёў? Гэтае абвінавачанне прадугледжвае зняволенне ад 7 да 12 гадоў, а «лягчэйшыя» часткі арт. 218, дзе гаворыцца пра меншы памер пашкоджання маёмасці, прадугледжваюць як меншы тэрмін зняволення — ад 3 да 10 гадоў, так і абмежаванне волі ды проста штраф.

Нашы прысуды склалі да 7–8 гадоў пазбаўлення волі. Такія тэрміны часта атрымоўваюць за разбой, наркагандаль, забойства і нават разбэшчванне малалетніх. Ведаю выпадак, калі за падпал машыны, у якой выпадкова апынуліся 2 чалавекі (згарэлі жыўцом) абвінавачаныя атрымалі 7 гадоў! Выходзіць, што падкопчаная сценка больш каштоўная за чалавечае жыццё?

Мы не маем ілюзій ні ў дачыненні следства, ні ў дачыненні суда. Нас не здзіўляюць прысуды, але здзіўляе, чаму такая адвочная сітуацыя не настолькі адвочная для ўсіх.

Можа, справа ў трывалых шаблонах дзеянняў на Захадзе? Пікеты, дэманстрацыі, мітынгі. Аднак давайце паглядзім на падзеі ў Сірыі: кожны дзень на працягу многіх месяцаў народ выходзіць на вуліцу, а войскі яго разганяюць і расстрэльваюць. Зразумела, што такімі дзеяннямі ўлады Сірыі разбураюць уласную легітымнасць. Захад рэагуе ўсё больш жорстка, і ўрэшце ці ўлада сыходзіць сама, ці ёй «дапамагаюць» па лівійскім сцэнары. Атрымоўваецца, што пытанне апраўданасці ўжывання сілы з боку пратэстоўцаў вырашаецца староннімі структурамі, урадамі лідзіруючых краін, у першую чаргу ЕС і ЗША.

Пакуль палітыкі прымаюць свае рэзалюцыі, людзей забіваюць і кідаюць у турмы, рабуюць і прыніжаюць. Аднак тых, хто ўзяў у рукі камень ці вінтоўку, а не проста падстаўляецца пад дубінкі і кулі, чамусьці вызначаюць як крымінальнікаў і правакатараў. Калі ж на высокім узроўні прымаюць неабходныя рэзалюцыі і даюць дабро, учорашнія «крымінальнікі і правакатары» прызнаюцца за герояў і пакутнікаў у барацьбе за дэмакратыю. Такія вось двайныя стандарты.

Прыкра асэнсоўваць, што ў нашай краіне, якая прайшла праз маштабныя рэпрэсіі царызму і бальшавізму, так складана атрымаць статус палітычнага без асаблівага лобі з боку апазіцыі. Справа не ў нас. Нам якраз няма прычыны гараваць: мы атрымалі велізарную падтрымку з боку як нашых родных, так і зусім незнаёмых людзей, і гэтая ўвага сапраўды каштоўная для нас. Аднак што рабіць усім тым, чыя крымінальная справа не на слыху? Праблема не ў некалькіх дзясятках людзей, праблема ў тысячах вязняў, асуджаных праз бязладдзе карных органаў, за тое, што паступалі па-чалавечы, прытрымліваліся сваіх прынцыпаў, адмаўляліся выконваць злачынныя распараджэнні, не паддаваліся шантажу ды вымагальніцтву. У турме можа апынуцца кожны з тых, хто цяпер ходзіць па вуліцы побач з намі. Страшна, калі на стале няма кавалка хлеба. Аднак яшчэ страшней, калі бацькі бачаць сталенне сваіх дзяцей толькі па фотаздымках.

Вызваленне некалькіх дзясяткаў палітычных не гаворыць пра тое, што ўсё стала на свае месцы. У моры несправядлівасці беларускай рэчаіснасці памянела толькі на кроплю. Ужо цяпер крытычна важна прызнаць палітычнымі вязнямі ўсіх, каго сама дзяржава сваім судовым бязладдзем дэфакта прызнала такімі; усіх тых, хто кінуў выклік уладзе ў барацьбе за праўду і справядлівасць.

**Пераклад Таццяны Шапуцькі**

ГРОШЫ

# АДЗІН РУБЕЛЬ ЗА АДЗІН ЕЎРА

Вольга ХВОІН

**Кіраўнік Нацбанку Надзея Ермакова выказала меркаванне, што ў наступным годзе можа быць праведзеная дэнамінацыя беларускага рубля. Эксперты гавораць, што такую працэдуру мэтазгодна ажыццяўляць, калі ўзровень інфляцыі мінімальны.**

Для дэнамінацыі патрэбная ўпэўненасць, што для далейшай стабілізацыі эканомікі не спатрэбіцца праводзіць дэвальвацыю рубля. Па словах Ермаковай, перш чым праводзіць дэнамінацыю, у Беларусі неабходна аднавіць рост эканомікі, забяспечыць стабільнае функцыянаванне грашовакрэдытнай сістэмы і дамагчыся прымальных працэнтных ставак — не ніжэй за 10%.

Яшчэ ў сакавіку Надзея Ермакова запэўнівала, што дэнамінацыю калі і правядуць, дык толькі пасля росту даходаў насельніцтва. «Не выключана, што мы прыбярэм лішнія нулі, калі вырастуць даходы насельніцтва і ў нашых кашальках купюры ўжо папросту не будуць змяшчацца. Але гэта адбудзецца не сёння і не заўтра, — тлумачыла старшыня праўлення Нацбанку. — Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне. На фоне дэвальвацыі нацыянальнай валюты, пры тым узроўні інфляцыі».

«Беларуская грашовая адзінка цяпер адна з самых мізэрных у свеце! — абураецца эканаміст Леанід Заіка. — За адзін долар даюць 8 тысяч беларускіх рублёў. Ёсць грашовая адзінка рубель, але ў фізічным выглядзе гэты рубель адсутнічае — няма ні банкноты, ні манеты такога наміналу. Калі ў краіне ёсць грашовая адзінка, але рэальна яна не існуе, то пра што гэта гаворыць? Можам паглядзець на некаторыя краіны Афрыкі, дзе таксама валюта вымяраецца тысячамі. Таму з пункту гледзішча нацыянальнай годнасці беларусаў жыць з такімі грашыма папросту непрыстойна. Лішнія нулі ўскладняюць разлікі, трэба друкаваць папяровыя грошы, што пакрываюць гэтыя сумы».

Леанід Заіка глядзіць далей і прапануе прыраўняць беларускі рубель да еўра, а потым гэта выдаваць як козыр, калі з Расіяй будзе весціся размова пра агульную валюту.

«Нас наперадзе чакае больш цесная інтэграцыя з Расіяй і Казахстанам, непазбежна давядзецца прымаць агульную грашовую адзінку. Гэта непазбежна! — разважае эканаміст. — Калі мы не адмаўляемся ад інтэграцыі, то будзем уводзіць адзіную грашовую валюту. І вось збяруцца ў Крамлі Пуцін, Лукашэнка, Назарбаеў. Кожны выкладзе сваю стопку паперак, эквівалентную аднаму долару, а Лукашэнка і скажа: «Мы разумныя і зрабілі рубель таннейшым за долар. На якую грашовую адзінку пераходзім?». У такім выпадку будзе выгодна пераходзіць усім на беларускі рубель».



Колькі нулёў варта забраць у беларускага «зайчыка»? Леанід Заіка прапануе «просты і самы кепскі варыянт — тры нулі», ці другі варыянт — прыбраць адразу чатыры нулі. У другім выпадку адзін беларускі рубель будзе роўны аднаму еўра.

У такім разе (калі прыбраць чатыры нулі), на думку эканаміста, Беларусь стане выглядаць больш па-еўрапейску, больш прывабна. «Бо плаціць за праезд паўтары тысячы рублёў — гучыць проста нерэальна». «Прыраўнялі да еўра, і больш грошай не друкуйце! — настаўляе эканаміст Заіка. — І ўсё будзе бачна наконт стабільнасці нашай валюты. Самае цікавае, што як закрэслім чатыры нулі, то людзі ўспомняць Савецкі саюз».

Некаторыя палітыкі таксама паспелі выказацца наконт магчымай дэнамінацыі беларускага рубля. Сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Георгій Дзмітрук мяркуе, што падчысціць нулікі беларускаму рублю неабходна, бо банкноты пераўтвараюцца ў фанцікі.

«Дадзеную заяву спадарыні Ермаковай трэба разглядаць у кантэксце таго, што адбываецца ў Беларусі. За першы квартал 2012 года Беларусь з'яўляецца лідарам па росце сукупнага знешняга доўгу і інфляцыі. Пры гэтым рост коштаў істотна апярэджвае рост заробкаў. Да таго ж у Беларусі па-ранейшаму не дзейнічаюць рынкавыя механізмы, дзяржава, як і раней, працягвае падтрымліваць стратныя галіны і прадпрыемствы, а стаўка рэфінансавання проста шалёная — 36%. Калі рынкавыя механізмы не пачнуць уводзіцца, нас зноў чакае неўтаймаваны рост коштаў і збядненне насельніцтва, паколькі рост заробкаў не будзе кампенсаваць росту інфляцыі, а гэта ў сваю чаргу прывядзе да абвастрэння пытання праблемных крэдытаў. Апроч таго, працягне свой рост і сукупны знешні доўг, — адзначыў Георгій Дзмітрук. — У гэтай сувязі варта верыць заяве спадарыні Ермаковай. Пытанне правядзення чарговай дэнамінацыі беларускага рубля стане на павестку дня ў самы бліжэйшы час. Без яе Беларусь рызыкуе ператварыцца з краіны мільянераў у краіну мільярдэраў. Рублі ж увогуле могуць стаць цікавымі толькі ў якасці сувеніраў».

Апошні раз дэнамінацыя беларускага рубля — у суадносінах 1:1000 — праводзілася 1 студзеня 2000 года.

12 сакавіка 2012 года Нацбанк увёў у абарачэнне новую самую буйную купюру наміналам 200 тысяч беларускіх рублёў.

## 11 МАЯ, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** «Дарагія лялькі». Дак. фільм.
**09.55** Мультфільм.
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Тэлефільм АТН.
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты» (Украіна). 1-я серыя.
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільм.
**15.35** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.15** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**17.25** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**18.10** Зона камфорту.
**18.45** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты» (Украіна). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.50** Камандзіроўка.
**22.05** Дзённік «Еўрабачання».
**22.20** Конкурс маладых музыкаў «Еўрабачанне-2012» ( Вена). Прамая трансляцыя.
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Трылер «Генеральская дачка» (ЗША).



**06.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.10** Прэм'ера. «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Добры дзень».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вялікая розніца».
**22.10** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**23.25** Фільм «Фальшываманетчыкі».
**01.05** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Верхаводы». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Пасажыр без багажу». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** 1/8 фіналу Першай лігі КВЗ.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** «Механічны апельсін».
**00.20** «Выклік на мільён долараў».
**01.05** «Баец». Серыял.



**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футбола.
**10.00** Меладраматычны серыял «Кропля святла» (Украіна). 4-я серыя, заключная.
**11.00** Камедыя «Калі Білі перамагае Бобі» (Канада - ЗША).
**12.45** Школа рамонту.
**13.50** Жарсці па культуры.
**14.35** Жансавет.
**15.10** Меладраматычны серыял «Кропля святла» (Украіна). 4-я серыя, заключная.
**16.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Казахстан - ЗША. Прамая трансляцыя.
**18.35** Фактар сілы.
**19.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Расія - Швецыя. Прамая трансляцыя. У перапынку: КЕНО.
**23.30** Камедыя «Калі Білі перамагае Бобі» (Канада - ЗША).




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00** Весці.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.25** «Пра самы галоўны». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Шлюбнае агенцтва Мікалая Баскава».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** Тэлесерыял «МУР».
**22.15** «Самазванка» (2012 г.). 2-я серыя.
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Зорныя ўдовы».




**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Таемны шоў-бізнэс».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Цуд-людзі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Баявік «Псеўданім «Албанец»-4».
**21.15** Вострасюжэтны серыял «Мент у законе».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Страляючыя горы».




**05.00** Паляўнічыя за рэлiквiямi.
**05.25** Рыба-меч.
**06.20** Як гэта ўладкавана?
**06.50** Як гэта зроблена?
**07.15** Сапраўдныя аферысты.
**08.10** Зброя па-амерыканску.
**09.05** Падпадзяленне Антытэрор.
**10.00** Выжыць любым коштам.
**10.55** Разбуральнікі легенд.
**11.50** Рыба-меч.
**12.45** Top Gear.
**13.40** Шэдэўры на колах.
**14.35** Паляўнічыя за рэлiквiямi.
**15.05** Выжыць любым коштам.
**16.00** Разбуральнікі легенд.
**17.00** Як гэта ўладкавана?
**17.30** Як гэта зроблена?
**18.00** Сапраўдныя аферысты.
**19.00** Лабараторыя для мужчын Джэймса Мэя.
**20.00** Ланцужная рэакцыя.
**21.00** Круцей не прыдумаеш.
**22.00** Экаград.
**23.00** Сапраўдныя аферысты.
**00.00** Top Gear.
**00.55** Рыба-меч.
**01.50** Разбуральнікі легенд.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.
**03.10** Як гэта ўладкавана?
**03.40** Як гэта зроблена?
**04.05** Шэдэўры на колах.




**09.30** Фітнес. Часопіс.
**09.45, 14.45** Веласпорт. Джыра д'Італія. Этап 5.
**10.30** Тэніс. Турнір WTA. Мадрыд. 1/8 фіналу.
**12.00** Ралі. IRC. Корсіка. Дзень 1.
**13.00, 18.30, 19.00** Тэніс. Турнір WTA. Мадрыд. 1/4 фіналу.
**15.45, 01.30** Веласпорт. Джыра д'Італія. Этап 6.
**21.00** Самыя моцныя людзі планеты. Чэмпіёнская ліга. Мартыніка.
**22.00** Бокс.
**00.00** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 17 гадоў. Славенія. Групавы этап.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** Басанож па свеце.
**08.00** «Час гонару», серыял.
**08.45** Рэпартэр.
**09.10** «Школа на санцапёку», серыял: 19 серыя.
**09.35** Euromaxx.
**10.05** Форум (ток-шоу).
**10.50** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 3.
**11.35** Эксперт.
**12.05** «Палітыканы», серыял: 7 серыя.
**12.55** «Час гонару», серыял.
**13.40** Форум (ток-шоу).
**14.25** «Школа на санцапёку», серыял: 19 серыя.
**14.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.15** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**15.45** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 3.
**16.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.00** Невядомая Беларусь: «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Форум (ток-шоу).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Невядомая Беларусь: «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.55** «Зух», камедыя, 1999 г., Польшча.
**23.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар.

## 12 МАЯ, СУБОТА



**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**09.55** Камедыйны серыял «Участак» (Расія). 1-я серыя.
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.10** Лірычная камедыя «Верныя сябры» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.40** Камедыя «Кадрыля» (Расія).
**17.15** Дзённік «Еўрабачання».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Трылер «Аварыя» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**22.50** Дзень спорту.
**23.00** Баявік «Людзі Х» (ЗША).



**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Жыць выдатна!».
**10.40** «Смак».
**11.20** Асяроддзе пасялення.
**12.20** «Разумніцы і разумнікі».
**13.05** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.20** Тэорыя неверагоднасці. «Плямы лёсу».
**14.10** «Хвіліна славы. Мары спраўджваюцца!».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Мая другая палова».
**19.25** «Абмен жонкамі».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі: Ілля Разнік».
**23.15** «Што? Дзе? Калі?».
**00.25** «Наша Белараша».



**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.35** «Салдаты-13». Серыял.
**09.15** «Я - вандроўца».
**09.40** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчукі».
**11.00** «Кіно»: «Сурыкаты» (Вялікабрытанія, 2008 г.).
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.15** «Залатая калекцыя»: «Бабнік» (СССР).
**14.40** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Кіно»: «Хімія пачуццяў» (Украіна, 2008 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Сусветны блокбастар»:»Механік» (ЗША, 2010 г.).
**21.55** «Зорны рынг». Іна Афанасьева супраць групы «Босае сонца».
**23.10** «Нефармат»: «Бяжы без аглядкі» (ЗША - Германія, 2006 г.).
**01.00** «Баец». Серыял.



**07.40** Дабравест.
**08.05** Мір вашаму дому.
**08.15** Скарбніца Гомельшчыны.
**08.40** Пра мастацтва.
**09.15** Тэлебарометр.
**09.20** Школа рамонту.
**10.30** Наперад у мінулае.
**11.05** Шоў «Суперінтуіцыя».
**12.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Славакія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**14.30** Беларуская кухня.
**15.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.35** Дак. цыкл «Вышэйшая мера…».
**16.55** Футбол. Альфа-банк - Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. «Гомель» - БАТЭ. Прамая трансляцыя.
**19.00** Хакей. Чэмпіянат свету. Швейцарыя - Францыя.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**23.20** Гістарычная драма «Выклік» (ЗША).
**01.35** Шоў «Суперінтуіцыя».




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Зорныя ўдовы».
**11.00** Весці.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.05** Фільм «Не забудзься. Станцыя Лугавая».
**13.45** «Уся Расія».
**14.00** Весці.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.25** «Ха». Маленькія камедыі.
**17.00** Весці.
**17.30** «Суботні вечар».
**19.00** «Выява свету» з Юрыем Казіяткам.
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весці ў суботу.
**20.40** «Вячэрні квартал».
**22.10** Мікалай Дабрынін у тэлесерыяле «Байкі Міцяя».
**00.10** Фільм «Вялікая сям'я».




**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** «Акадэмія прыгажосці з Ляйсан Уцяшэвай».
**08.45** Іх норавы.
**09.25** «Справа густу».
**10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Цэнтр дапамогі «Анастасія».
**11.05** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Смерш. Легенда для здрадніка».
**17.35** Вочная стаўка.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.25** Баявік «Псеўданім «Албанец»-4».
**21.10** Серыял «Мент у законе».
**22.55** «Ты не паверыш!».
**23.45** Вострасюжэтны серыял «Страляльныя горы».




**05.00** У пагоні за ўраганам.
**05.55** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**06.50, 16.00** Залатая ліхаманка.
**07.45** Брудная работка.
**08.40** Гіганцкія караблі.
**09.35** Спецпрызн «Цяжкія машыны».
**10.30** Марскі горад: стварыць немагчымае.
**11.25, 18.00** Браты па багне.
**12.20** Горш быць не магло.
**13.15, 19.00** Top Gear.
**14.10** Махінатары.
**15.05** Як гэта ўладкавана?
**15.30** Як гэта зроблена?
**17.00** Спецпрызн «Цяжкія машыны».
**20.00** Махінатары.
**21.00** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**22.00** На мяжы.
**23.00** Антытэрор.
**00.00** Зброя па-амерыканску.
**00.55** Лесапавал на балотах.
**01.50** У пагоні за ўраганам.
**02.45** Як гэта ўладкавана?
**03.10** Top Gear.
**04.05** Махінатары.




**09.30** Фітнес. Часопіс.
**09.45, 14.45** Веласпорт. Джыра д'Італія. Этап 6.
**10.25** Часопіс.
**10.30** Тэніс. Турнір WTA. Мадрыд. 1/4 фіналу.
**12.00, 18.30, 19.00** Ралі. IRC. Корсіка. Дзень 2.
**13.00, 20.00, 01.30** Тэніс. Турнір WTA. Мадрыд. 1/2 фіналу.
**15.45, 00.30** Веласпорт. Джыра д'Італія. Этап 7.
**22.00** Баявыя мастацтвы. Германія.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Палітыканы», серыял: 7 серыя.
**08.20** Басанож па свеце.
**08.45** ПраСвет.
**09.05** Калыханка для самых маленькіх.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.50** Навігатар.
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.35** На колах.
**11.00** «Бландзінка», серыял: 6 серыя.
**11.45** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 3.
**12.35** Форум (ток-шоу).
**13.15** Калыханка для самых маленькіх.
**13.35** ПраСвет.
**13.55** «Дэкалог, пяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**14.55** Сальда (эканамічная праграма).
**15.10** Невядомая Беларусь: «Свята на нашай вуліцы», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**15.35** «Зух», камедыя, 1999 г., Польшча.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 25 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Дарога», маст. фільм, 2002 г., Чэхія–Славакія.
**23.25** «Мент», дэтэктыўны серыял: 20 серыя.
**00.10** Аб'ектыў.

## 13 мая, нядзеля



**06.25** Існасць.
**06.50** Лірычная камедыя «Верныя сябры» (СССР).
**08.30** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН «Бярэсце - брама неўміручасці» цыклу «Зямля беларуская».
**09.50** Камедыйны серыял «Участак» (Расія). 2 -я серыя.
**10.55** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.25** Да цешчы на бліны.
**12.10** Медычныя таямніцы.
**12.50** Культурныя людзі.
**13.25** Мультфільмы.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыя «Міміно» (СССР).
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Суперлато.
**18.50** Рамантычная камедыя «Развод» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Дзённік «Еўрабачання».
**22.10** Крымінальная драма «Час забіваць».



**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**13.00** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.15** Прэм'ера. «Рэальная казка».
**15.10** «Зваротны адлік». «Беларускі Робін Гуд. Герой ці разбойнік?».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Нядзельны «Ералаш».
**16.40** «Прыватны вышук палкоўніка ў адстаўцы».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дзве зоркі». Постскрыптум.
**22.55** «Пражэктарперісхілтон».
**23.35** «Yesterday live».



**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочца прадстаўляе: самае смешнае».
**10.05** «Вялікі сняданак».
**10.45** «Кіно»: «Механік» (ЗША, 2010 г.).
**12.20** «Добры дзень, доктар».
**12.50** «Віват, Гардэмарыны» (СССР, 1991 г.).
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда». Праграма П. Каранеўскага.
**17.30** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** «Фільм тыдня»: «13 раён: ультыматум» (Францыя, 2009 г.).
**22.30** «Пякельная кухня».
**23.50** «Арт-хаўс»: «Бясстрашны» (ЗША - Ганконг - Кітай, 2006 г.).
**01.30** «Баец». Серыял.



**06.55** Эксцэнтрычная камедыя «Дыяментавая рука» (СССР).
**08.45** Размова са святаром.
**08.55** Прыступкі Веры.
**09.10** Таямніца душы.
**09.35** Камедыя «Сем нянек» (СССР).
**11.05** Тэлебарометр.
**11.10** Школа рамонту.
**12.15** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.20** Вышэй за дах.
**13.55** Бухта капітанаў.
**14.35** Эксцэнтрычная камедыя «Дыяментавая рука» (СССР).
**16.25** Кінапробы.
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Расія - Чэхія. Прамая трансляцыя.
**19.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Матч апошняга тура.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Навіны надвор'я.
**22.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**22.40** Спорт-кадр.
**23.25** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** «Байкі Міцяя».
**09.00** «Вялікая сям'я».
**11.00, 14.00** Весці.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**12.30** «Шукай ветра…».
**14.15** Фільм «Яшчэ кахаю, яшчэ спадзяюся…».
**15.50** «Гарадок». Дайджэст.
**16.15** «Смяяцца дазваляецца».
**17.20** «Справа была ў Пянькове».
**19.15** «Рассмяшы коміка».
**20.00** Весці тыдні.
**21.05** «Дачка баяніста» (2012 г.).
**22.55** «Маўкун» (2007 г.).



**06.35** Баявік «Шпіёнскія гульні».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ядзім дома.
**10.20** «Жаночы погляд» Аксаны Пушкінай.
**11.05** Дачны адказ.
**12.05** «Развод па-руску».
**13.20** «Генералы халоднай вайны». Андрэй Грамыка.
**14.15** Фільм «Ягорушка».
**16.20** Следства вялі.
**17.10** І зноў добры дзень!
**18.00** «Увага, вышук!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне». Першае інфармацыйнае шоў.
**21.55** «Таемны шоў-бізнэс».
**23.00** Серыял «Мент у законе».



**05.00** Вокамгненныя катастрофы.
**05.55, 01.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**06.50** Ланцужная рэакцыя.
**07.45, 02.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?
**08.40** Залатая ліхаманка.
**10.30** У пагоні за ўраганам.
**11.25, 20.00** Лабараторыя для мужчын Джэймса Мэя.
**12.20, 21.00, 00.55** Ланцужная рэакцыя.
**13.15, 22.00** Круцей не прыдумаеш.
**14.10** Горш быць не магло.
**15.05** Браты па багне.
**16.00** Спецпрызн «Цяжкія машыны».
**19.00** Сапраўдныя аферысты.
**23.00** Экаград.
**00.00** Лесапавал на балотах.
**03.10** Гіганцкія караблі.
**04.05** Марскі горад: стварыць немагчымае.



**09.30** Ралі. IRC. Корсіка. Дзень 2.
**10.00** Аўтаспорт. Серыя GP3. Барселона. Заезд 1.
**10.30** Аўтаспорт. Серыя GP3. Барселона. Заезд 2.
**11.00** Спартовая гімнастыка. Чэмпіянат Еўропы.
**11.55** Спартовы шлях. Часопіс.
**12.00** Веласпорт. Джыра д'Італія. Этап 7.
**12.45** Аўтаспорт. Суперкубак Паршэ. Барселона.
**13.30** Супербайк. Чэмпіянат свету. Кваліфікацыя.
**14.00** Супербайк. Чэмпіянат свету. Заезд 1.
**15.00** Мотаспорт. Суперспорт. Чэмпіянат свету.
**16.15** Веласпорт. Джыра д'Італія. Этап 8.
**18.30, 21.00** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 17 гадоў. Славенія. 1/2 фіналу.
**20.15** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 17 гадоў. Славенія. Групавы этап.
**22.45** Тэніс. Турнір WTA. Мадрыд. Фінал.
**23.45** Супербайк. Чэмпіянат свету. Заезд 2.
**00.30** Веласпорт. Тур Каліфорніі. Этап 1.
**02.00** Мотаспартыўны часопіс.
**02.15** Разам у Лондан. Алімпійскі часопіс.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды».
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 25 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.05** Еўропа сёння.
**09.30** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**10.55** «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.50** «Непамілаваны», рэпартаж, 2011 г..
**12.10** Калыханка для самых маленькіх.
**12.45** Рэпартэр.
**13.10** «Тэра постсаветыка. Катынь», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.35** ПраСвет.
**14.00** Невядомая Беларусь: «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм.
**14.30** Форум (ток-шоу).
**15.15** «Дарога», маст. фільм, 2002 г.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**18.15** «Час гонару», серыял.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** Басанож па свеце.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.30** Калыханка для самых маленькіх.
**19.45** «Лікёра-гарэлачны завод», дак. фільм, 2010 г., Швецыя.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт.
**22.10** Фільматэка майстроў: «Быць Джульяй», маст. фільм, 2004 г., ЗША–Брытанія–Канада–Венгрыя.
**23.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ВЫБАРЫ

# ЧАВЕС МОЖА СЫСЦІ

Алег НОВІКАЎ

**Афіцыйны Каракас упершыню прызнаў, што хвароба на рак можа не дазволіць Уга Чавесу кіраваць краінай.**

Сакрэт палішынеля раскрыў Вільмар Кастра, губернатар і адзін з лідараў урадавай Аб'яднанай сацыялістычнай партыі Венесуэлы (PSUV), сябра выбарчага штабу Чавеса. «У прэзідэнта рак. Гэта не проста звычайная хвароба. Яна можа выклікаць любыя працэсы», — сказаў ён. Гэта заява, на думку шматлікі журналістаў, стала мяжой у афіцыйным дыскурсе наконт наступстваў хваробы ў прэзідэнта.

Нагадаем, што Чавес прызнаў, што хворы на рак з чэрвеня пазамінулага года. Навіна выклікала шок у венесуэльскім грамадстве. Так, індзейцы Арынока правялі спецыяльны рытуал з мэтай выгнання злых духаў, якія быццам усяліліся ў цела баліварца. Між тым, самі ўлады ў духу масавай культуры паспрабавалі ператварыць хваробу прэзідэнта ў меладраму з добрым фіналам. Праз нейкі час Чавес заявіў, што, дзякуючы кубінскім спецыялістам і іх метаду хіміятэрапіі, пайшоў на папраўку. Аднак цуда не атрымалася. Праз нейкі час прэзідэнту давялося перанесці чарговую аперацыю на Кубе. Увогуле, за апошні год яму зрабілі тры аперацыі.

Пасля апошняй гарант напісаў у твітар, што «лунае, як кондар». Аднак чым больш пацыент сцвярджае, што ён здаровы, тым больш грамадства сумняваецца ў гэтым. Фактычна, стан здароўя прэзідэнта — дзяржаўная таямніца. Апошні раз публіка бачыла гісторыю хваробы свайго кіраўніка дзесяць месяцаў таму. Доступу да гэтых файлаў не маюць нават бонзы PSUV. Акрамя таго, кожны раз сеансы цудадзейнай кубінскай хіміятэрапіі ўсё больш доўгія. У выніку PSUV нават давялося ўрачыста пачынаць выбарчую кампанію ў той час, калі сам кандыдат знаходзіўся ў шпіталі.

Праўда, як сведчаць апытанні, шпіталізацыя Чавеса пакуль не ўплывае на рэйтынгі. Усе незалежныя сацыялагічныя аракулы прадракаюць яму перамогу над губернатарам Энрыке Капрылесам, які прадстаўляе аб'яднаную апазіцыю. Разрыў папулярнасці паміж канкурэнтамі складае ад 7 да 20 пунктаў. У сярэднім прагноз на першы тур выбараў выглядае наступным чынам: за Чавеса прагаласуюць 44,7 працэнта, а за «адзінага» — 31,4 працэнта. Аднак з-за зацяжной хваробы тая перамога можа быць піравай.

Па сутнасці, улада пачынае канстатаваць невясёлую ісціну: магчыма, з-за сваёй хваробы Уга Чавес будзе не ў стане выконваць абавязкі кіраўніка дзяржавы, калі на прызначаных на 7 кастрычніка выбарах атрымае ўжо пяты прэзідэнцкі мандат запар. А гэта значыць, што баліварскай рэвалюцыі тэрмінова патрэбны новы правадыр. Пытанне ў тым, дзе яго шукаць.

Між тым, да прэзідэнцкіх выбараў застаецца менш за 5 месяцаў. Гэта значыць, што часу на раскрутку магчымага пераемніка Чавеса не так шмат.



**Адзін з тэарэтыкаў сучаснага сацыялізму Хейнц Дзітрых, які паўплываў на канцэпцыі Чавеса, ужо заклікае тэрмінова перанесці полюс сацыялістычнага руху з Венесуэлы ў Эквадор**

Сацыялагічныя службы дружна кажуць пра тое, то ніводны з вядомых у цяперашнім атачэнні Чавеса палітыкаў не ў стане перамагчы Энрыке Капрылеса. Эліас Хауа Мілана — віцэ-прэзідэнт Венесуэльскай Баліварскай Рэспублікі — мае давер 29 працэнтаў электарату. Нікалас Мадура, кіраўнік канцылярыі прэзідэнцкай адміністрацыі, былы лідар прафсаюзаў, карыстаецца падтрымкай 23 працэнтаў выбаршчыкаў. У спікера Дзіясдада Кабельё толькі 20,4 працэнты. У іншых лідараў баліварскай рэвалюцыі і таго менш.

Прычына такой сітуацыі комплексная. Аднак галоўная, кажучы ельцынскім лексіконам, «загагуліна» — у самой пабудаванай Чавесам мадэлі Баліварскай дзяржавы. Адпаведна гэтай схеме, вырашальнае слова застаецца за прэзідэнтам, а ён упарта адмаўляецца нават гаварыць пра тое, што яго персоне магчыма альтэрнатыва. Ніякага кастынгу пераемнікаў, калі верыць мясцовай прэсе, у палацы Мірафлорэс (рэзідэнцыя венесуэльскага прэзідэнта) не вядзецца.

Такі падыход, на думку венесуэльскага палітолага Маргарыты Лопес Майя, можа быць выкліканы не колькі раздзьмутым асабістым эга Чавеса, які верыць у тое, што абавязкова стане здаровым. Магчыма, гэта следства росту ўплыву на Чавеса фракцыі вайскоўцаў і братоў Рауля і Фідэля Кастра. «Прэзідэнт блакіруе ўсе спробы грамадзянскай супольнасці ўплываць на яго рашэнне. З іншага боку, выявіліся дзве новых сілы, якія ўсё больш фармуюць яго думку — генералы і кубінскі рэжым, што трымае ў сакрэце стан здароўя прэзідэнта», — цытуе Маргарыту Майя іспанская газета «El Pais».

Вайскоўцам і кубінцам без Чавеса будзе цяжка. У гэтым плане паказальная адна з апошніх калонак, якую Фідэль Кастра пад рубрыкай «Reflexiones» вядзе на старонках «Granma» — органа кубінскай кампартыі. Фідэль Кастра сцвярджае, што тыя, хто разлічвае на хваробу Чавеса (у тым ліку Барак Абама) робяць памылку, паколькі недаацэньваюць «рэвалюцыйнае адзінства кіраўніцтва Венесуэлы». Тандэму братоў Кастра ёсць ад чаго хвалявацца: штодня Венесуэла ў знак рэвалюцыйнай салідарнасці бясплатна дасылае на Кубу сто тысяч барэляў нафты.

Што тычыцца вайскоўцаў, дык перадача ўлады цывільным асобам панізіць іх статус-кво. Калі верыць той жа «El Pais», ні ў адной лацінаамерыканскай краіне войска не мае такога ўплыву на ўнутраную палітыку, як у Венесуэле.

Ніхто асабліва не рвецца ў пераемнікі. «Складваецца ўражанне, што сам факт пачатку дэбатаў наконт магчымага пераемніка Уга пужае ўвесь праўладавы лагер. Схема думкі тут простая — калі будуць нейкія змены ў кіраўніцтве, нехта абавязкова нешта згубіць, а нехта абавязкова нешта атрымае. Гэта не падабаецца бюракратам, якія знайшлі сваё цёплае месца ў сістэме. Страх перад магчымымі пераменамі тармозіць палітычную волю», — адзначае палітолаг.

Цікава, што пра варыянт Венесуэлы без Чавеса ўжо пачалі разважаць і за межамі краіны. Так, калумбійскі прэзідэнт Хуан Мануэль Сантас, які, дарэчы, трымаецца праамерыканскіх поглядаў, выказвае трывогу наконт таго, што ў Венесуэле пасля сыходу Чавеса «можа пачацца анархія». А адзін з самых вядомых тэарэтыкаў сучаснага сацыялізму Хейнц Дзітрых, які паўплываў на канцэпцыі Чавеса, ужо заклікае да таго, каб тэрмінова перанесці полюс сацыялістычнага руху з Венесуэлы ў суседні Эквадор, якім кіруе іншы левы палітык Рафаэль Карэа.

Застаецца дадаць, што на венесуэльскіх інтэрнэт-форумах большасць блогераў лічыць, што ў выпадку, калі здароўе Уга сапраўды пачне здаваць, Венесуэлу чакае вайсковая форма кіравання.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Вяртанне еўрапейскіх паслоў, якія пакінулі Беларусь з-за абвастрэнні адносін паміж Мінскам і Брусэлем, здольнае прадухіліць далейшую эскалацыю канфлікту, аднак праблем не вырашыць. Па меркаванні экспертаў, далейшае развіццё еўрапейска-беларускіх адносін цалкам залежыць ад таго, як павядзе сябе афіцыйны Мінск. У якасці намёку на магчымыя саступкі ЕС можна разглядаць заяву Аляксандра Лукашэнкі пра чарговую амністыю зняволеных. Пытанне толькі ў тым, ці будуць пры гэтым выпушчаны ўсе палітвязні ці частка з іх усё ж застанецца ў турме. Адказ на гэта пытанне будзе сведчыць пра ступень імкнення афіцыйнага Мінска нармалізаваць адносіны з Еўрасаюзам.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Па стану на 15 красавіка, 11708 жыхароў Іспаніі далучыліся да кампаніі, якая заклікае сусветную супольнасць байкатаваць чэмпіянат свету па хакею з шайбай, які павінен адбыцца ў Беларусі ў 2014 годзе. Як лічаць ініцыятары кампаніі, у Беларусь нельга ехаць, пакуль не будуць вызвалены ўсе палітычныя вязні, а таксама ўведзены мараторый на смяротнае пакаранне. Для даведкі: у хакей з шайбай у Іспаніі гуляюць, але мала хто пра гэта падазрае. У вышэйшым дывізіёне ўдзельнічае ўсяго 6 клубаў. Колькасць гледачоў, якія збіраюцца на трыбунах падчас матчаў, рэдка перавышае колькасць сваякоў, сяброў і знаёмых хакеістаў. Іспанцаў, здольных знайсці на карце Беларусь і назваць імя прэзідэнта гэтай краіны, калі і больш, то не нашмат. Тым дзіўней, што ўжо знайшлося амаль 12 тысяч чалавек — праціўнікаў таго, каб у практычна невядомай ім краіне прайшоў чэмпіянат свету па невядомым ім відзе спорту.

**«El Mundo» (Іспанія)**

Не апраўдаліся разлікі беларусаў і на адзіны з Расіяй і Казахстанам рынак. Нагадаем, што беларусы разлічвалі на прыток замежных інвестыцый у сувязі з жаданнем замежнага бізнэсу адкрыць свае вытворчасці на тэрыторыі краіны і пастаўляць у Мытны Саюз (МС). Аднак знешнеэканамічная палітыка ізаляцыі, якой прытрымліваецца Лукашэнка, ціск ЕС і санкцыі зменшылі нават той узровень замежных інвестыцый, які быў. Калі раней іх было каля 2%, то сёння лічба вагаецца на ўзроўні арыфметычнай хібнасці. Акрамя таго, Беларусь вельмі хутка застанецца адзінай з краін МС, хто не з'яўляецца сябрам Сусветнай Гандлёвай Арганізацыі (СГА). Адзіны рынак з Казахстанам і Расіяй азначае, што крана будзе вымушана вытрымліваць канкурэнцыю нароўні з усімі сусветнымі вытворцамі, але, не з'яўляючыся чальцом СГА, не зможа абараніць сябе тымі механізмамі, якія існуюць для краін-сябраў.

**«Независимая газета» (Расія)**

Знешні ціск можа стаць вырашальным фактарам для таго, каб аўтарытарныя рэжымы пачалі шанаваць правы чалавека. У той час, як амерыканскія заканадаўцы працуюць над абмежавальнымі мерамі ў дачыненні да расійскіх улад, Еўрапейскі саюз бачыць вынікі падобных санкцый у дачыненні да беларусаў. Беларускія палітолагі лічаць, што дамінантным фактарам, якія паўплывалі на вызваленне Саннікава, былі эканамічныя і палітычныя санкцыі ЕС, уведзеныя ў супраць рэжыму Лукашэнка ў сакавіку. Вядома, гэтыя меры — толькі пачатак барацьбы з масавымі парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі. ЕС і ЗША павінны працягваць ціск на беларускія ўлады для таго, каб вызваліць іншых актывістаў апазіцыі, якія ўсё яшчэ знаходзяцца ў турме па сфабрыкаваных абвінавачаннях.

**«The Moscow Times» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. РУХ СУПРАЦЬ НОВЫХ ПАДРУЧНІКАЎ

60 настаўнікаў літаратуры Кіева падпісалі сумесную дэкларацыю аб стварэнні грамадзянскай ініцыятывы супраць новай школьнай праграмы вывучэння сусветнай літаратуры. Свае патрабаванні яны выклалі ў лісце на імя Дзмітрыя Табачніка, міністра культуры і адукацыі, які стаў аўтарам новай канцэпцыі выкладання прадмету. На думку настаўнікаў, у новай праграме занадта шмат твораў папулярных сучасных пісьменнікаў, якія, аднак, не цягнуць на статус класікаў. Так, украінскім дзецям давядзецца вывучаць Джоан Роўлінг з яе Гары Потэрам і Таццяну Талстую з яе раманам «Кісь». Некаторыя аўтары, творы якіх прапануе вывучаць Табачнік, на думку настаўнікаў, надаюць занадта вялікую ўвагу праблемам сэксу. Напрыклад, Паула Каэльё, чыя кніжка «Вераніка вырашае памерці» таксама трапіла ў спіс для абавязковага вывучэння. Нарэшце, міністра адукацыі атакавалі за яўны перакос у бок рускай літаратуры. З-за Александра Качаткова або Анатоля Прыстаўкіна выкінуты з падручнікаў Вальтэр Скот, Марк Твэн і іншыя заходнія літаратары. У перспектыве пратэстуючыя супраць Табачніка настаўнікі збіраюцца стварыць нацыянальную арганізацыю. Відавочна, што сродкі яны знойдуць: у вачах шматлікіх аранжавых палітыкаў Дзмітрый Табачнік — заўзяты прыхільнік курсу русіфікацыі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІРАК. ШЭКСПІР СТАЎ ІРАКСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ

Нацыянальны тэатр Іраку ў Багдадзе адаптаваў да мясцовых рэалій славутую п'есу Шэкспіра «Рамэа і Джульета». На думку іракскіх тэатралаў, «самая сумная гісторыя ў свеце» вельмі актуальна гучыць для Іраку, паколькі ў ёй асуджаецца бессэнсоўнае супрацьстаянне розных сацыяльных груп або кланаў, ахвярамі якой з'яўляюцца маладыя людзі, што належаць да іх. У іракскім выпадку Мантэкі і Капулеці выступаюць шыіты і суніты — самыя вялікія канфесіянальныя групы, якія ніяк не могуць знайсці кампрамісу. Рэжысёру спектаклю засталася самая дробязь: дадаць у п'есу больш іракскага антуражу, апрануць герояў у іракскія строі — і перад намі актуальная іракская драма двух закаханых: шыіцкай дзяўчыны і суніцкага хлопца. Прэм'ера п'есы ў Еўропе адбудзецца падчас Алімпійскіх гульняў у Лондане.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. КОНКУРС ЧОРНЫХ ПРЫГАЖУНЬ



**Пераможца конкурсу «Міс Чорная Францыя»**

Вялікія дэбаты ў французскім грамадстве выклікала правядзенне 28 красавіка конкурсу «Міс Чорная Францыя». Арганізатары, сярод якіх Выканаўчы савет асацыяцый чарнаскурых французаў (Cran), лічаць, што падобны конкурс будзе спрыяць прапагандзе «чорнай прыгажосці», якая не можа цалкам праявіцца праз засілле ў шоў-бізнэсе белых мадэляў. Па словах актывістаў Cran, белае дамінаванне не дазваляе нават абраць сапраўдную міс Францыя. У сваю чаргу, некаторыя праваабаронцы бачаць у конкурсе спробу прапаганды расавай сегрэгацыі ў грамадстве і замах на рэспубліканскія каштоўнасці. Арганізатары конкурсу «Міс Францыя» таксама нагадваюць пра тое, што яшчэ ў 2012-м першай міс краіны стала дзяўчына, бацькі якой паходзяць з Руанды. Нарэшце, нельга выключаць, што конкурс з яўным расавым складнікам можа спрыяць росту правых настрояў, асабліва цяпер, падчас палітызацыі, выкліканай выбарамі. Цікава, што самі ўльтраправыя дастаткова абыякава каментуюць факт правядзення конкурсу «Міс Чорная Францыя». Традыцыйна іх больш непакоіць конкурс «Містэр Францыя», які праводзіцца з 2001 года і які, на думку ўльтраправых, ёсць не што іншае, як прапаганда нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. ДАЛАЙ-ЛАМА ПАМІРЫЦЬ КАЛМЫКАЎ

У Элісце (сталіца Калмыкіі) на поўным сур'ёзе чуюцца заклікі тэрмінова выклікаць у край духоўнага лідара будыстаў, да якіх, як вядома, належаць і калмыкі. Выключна Далай Лама, на думку шмат каго, здольны памірыць дзве фракцыі ў мясцовай эліце, узаемаадносіны якіх перайшлі ў стан адкрытай сілавой разборкі. Лідар адной з іх — мэр Элісты Эрдні Шагджыеў, лідар другой — яго намеснік Баатр Бадаеў. Яблыкам канфлікту стала вакансія гарадскога «сіці-менеджара», якую хоча кантраляваць кожная з груповак. Максімальнай вастрыні супрацьстаянне дасягнула 24 красавіка, калі група дэпутатаў на чале з Бадаевым у суправаджэнні каля сотні прыхільнікаў спартоўка целаскладу паспрабавала прайсці ў будынак мэрыі. У выніку завязалася масавая бойка, якую спыніла толькі ўмяшанне супрацоўнікаў паліцыі і спецназу. Цяпер ахова офіса мэрыі Элісты ўзмоцнена, знадворку ўвесь час знаходзіцца паліцэйскі патруль. Тым не менш, Шагджыеў і яго каманда баяцца выходзіць з будынку: па яго перыметры ўвесь час стаяць групкі маладых людзей з яўна не добрымі намерамі. Спробы Масквы выступіць арбітрам у канфлікце пакуль не мелі вынікаў. Такім чынам, адна надзея на Далай-ламу.

**Паводле расійскай прэсы**

ЦІКАВА

# М'ЯНМА: АСЦЯРОЖНА, ДЗВЕРЫ АДЧЫНЯЮЦЦА

**Пакуль супраць Беларусі ўводзяць міжнародныя санкцыі, з М'янмы (Бірма), дзе адбыліся свабодныя выбары, іх здымаюць. У краіну пачалі пускаць першых замежных турыстаў, адным з якіх стаў казахскі журналіст Сяргей Грышын. Ён падзяліўся з журналістам НЧ Алегам Новікавым сваімі ўражаннямі ад гэтай учора яшчэ зачыненай краіны.**



***— Што прымушае людзей наведваць не курорты Турцыі і Егіпта, а пазбаўленую турыстычнай інфраструктуры М'янму, у якой, у дадатак, амаль паўстагоддзя кіруе вайсковая хунта? У інтэрнэце шмат жахлівых гісторый на гэты конт. Так, быццам, мытнікі М'янмы канфіскуюць у іншаземцаў усе мабільнікі і ноўтбукі ў аэрапорце, абяцаючы вярнуць пры выездзе з краіны. І, быццам, дагэтуль выпадкаў вяртання не было...***

— Галоўная хараство гэтай краіны ў тым, што турыстаў з краін СНД там практычна няма. А калі сур'ёзна, то краіна прыцягвае, і заслужана, дзякуючы сваёй сапраўднасці. Тут усё сумленна, хаця рынкавая стыхія турызму ўжо пачынае браць сваё. У дадатак М'янма мяняецца надзвычайна хутка. З гэтай прычыны парады турыстычных даведнікаў страчваюць актуальнасць за пару месяцаў. Ужо па прылёце ў аэрапорт Янгона выявілася неадпаведнасць апошняй інфармацыі наконт той жа пагалоўнай канфіскацыі персанальнай тэхнікі: на выхадзе з самалёту адсутнічаў не толькі жорсткі мытны кантроль, але ўвогуле любы.

***— Што такое дыктатура, ведае, думаю, шмат жыхароў СНД, а вось што такое вайсковая дыктатура ў варыянце М'янмы?***

— Парадокс у тым, што прыкмет самой улады (вайскоўцаў), на першы погляд, не назіраецца. Нават паліцэйскія трапляні ў поле зроку ўсяго пару разоў. Магчыма, таму што злачыннасці ў яе традыцыйным выглядзе ў М'янме амаль няма. Як вядома, пануючая тут будысцкая рэлігія абяцае непазбежную адплату за злачынствы. Мясцовы бацька нацыі генерал Тая Шве, ці проста Генерал, — не фанат самарэкламы. Яго выяву можна сустрэць толькі на фатаграфіях, зробленых на мыльніцу, у некаторых будысцкіх храмах, якія ён наведаў. На жаль, М'янма — не тая краіна, дзе інфармацыю можна атрымліваць з першых вуснаў. Нягледзячы на каланіяльнае мінулае, англійская мова істотна забытая, але і ў выпадку разумення ніхто не стане абмяркоўваць грамадска-палітычныя тэмы. Тым больш, што кантакты з замежнікамі адсочваюцца: іх не так шмат, і дзяржава яшчэ ў стане атачыць пры патрэбе кожнага іншаземца асобным «клопатам».

***— Наколькі вольна можа паводзіць сябе інтурыст у М'янме?***

— Любыя пераезды ўнутры краіны магчымыя толькі па пашпарце, а кіроўцы аўтобусаў і ўладальнікі гатэляў асцярожна спрабуюць высветліць вашы далейшыя планы. Перасоўвацца па краіне можна толькі па вызначаных маршрутах. Аднак ад «турыстычных месцаў», як мне растлумачылі, нельга аддаляцца далей чым на 20 кіламетраў па радыусу. І гэта, магчыма, не прыхамаць спецслужбаў. Справа ў тым, што ўлады даўно мараць стварыць адзіную бірманскую нацыю шляхам прымусовай асіміляцыі розных тутэйшых плямёнаў. У выніку этнічныя меншасці ўзяліся за зброю. Так што перманентная партызанская вайна вядзецца ў 5 ці 6 штатах. Паралельна і з рэжымам, і з паўстанцамі вядуць баі картэлі гандляроў наркотыкамі, якія ўзялі пад свой кантроль некалькіх рэгіёнаў. А для большага хаосу ў гарах на мяжы з Тайландам дзейнічае вар'яцкае па сваёй жорсткасці хрысціянскае Войска Бога, якое складаецца галоўным чынам з дзяцей і падлеткаў.

***— Якая ў М'янме сітуацыя з інтэрнэтам? На тых жа турыстычных форумах можна прачытаць, што за адпраўку аднаго e-mail з гасцінічнага кампутара нейкаму амерыканцу выставілі рахунак на дзве тысячы долараў ЗША.***

— Інтэрнэт у краіне з'явіўся, і ён ёсць амаль усюды, але толькі жахліва павольны. Афіцыйна ў краіне заблакаваны ўсе сацыяльныя сеткі і паштовыя серверы тыпу gmail, але ўсе інтэрнэт-салоны ўваходзяць у сетку праз проксі, так што забароны гэтыя хіба што адбіваюцца на хуткасці.

***— Як жывуць простыя людзі? Які стан эканомікі пасля амаль 20 гадоў эканамічнай блакады з боку Захаду?***

— Нейкіх сваіх вытворчасцяў, здаецца, няма наогул — за выключэннем вельмі сціплай харчовай прамысловасці. Адсутнічае магчымасць аплаціць нешта карткай ці зняць грошы з Visa і іншых электронных сістэм аплаты. З'явіўся, праўда, турызм. Ёсць яшчэ здабыча каштоўных камянёў (якія, хутчэй за ўсё, збываюць на знешніх рынка нелегальна) і сельская гаспадарка. Напэўна, адсоткаў 80 насельніцтва жыве ў галечы. Аднак гэта галеча выглядае хутчэй нейкім традыцыяналізмам — электрычнасць і супермаркеты сялянам не патрэбныя, паколькі яны пра іх не ведаюць. Таму яны звыкла з дапамогай быкоў садзяць агароды. Пры гэтым жыхары М'янмы — людзі вельмі добрыя і гатовыя падзяліцца з блізкім. Раніца для шматлікіх жыхароў пачынаецца з абавязковага запаўнення талерак ежай і вадой для сабак і котак, якія жывуць на вуліцах. Вось такая нацыя наіўных несапсаваных цывілізацыяй людзей.

***— Памятаю на палітінфармацыях у савецкай школе нашага лектара заўсёды ставіла ў тупік пытанне, чаму Бірма, якая па канстытуцыі будуе сацыялізм, не належыць да сацлагеру. Ці засталося нешта ад таго эксперыменту?***

— Наогул, у выпадку Паўднёва-ўсходняй Азіі амаль усе рэжымы ці формы кіравання ўяўляюць сабой пэўную экзотыку, незалежна ад таго, што там плануюць выбудаваць — сацыялізм ці капіталізм. У гэтым М'янма цалкам упісваецца ў агульную канцэпцыю: паўстагоддзя таму пачалі будаваць сацыялізм з бірманскім тварам, праўда, у якасці будаўнікоў ужо тады выступілі вайскоўцы. Падобны сімбіёз мілітарызму і сацыялізму перапужаў нават Савецкі Саюз, якому было дастаткова таго, што вытвараў у Камбоджы Пол Пот. Так што СССР адмовіўся ўключыць бірманскую мадэль у рэестр сацыялістычных краін і, як следства, адмовіў у спонсарскай дапамозе. У выніку — голад і дэфіцыт усяго. Усё скончылася ў 1987–1988 гадах раптоўнай дэнамінацыяй грошай, студэнцкімі бунтамі, расстрэламі студэнтаў (колькасць забітых ішла на тысячы), зачыненнем усіх ВНУ і, нарэшце, усталяваннем адкрытай ваеннай дыктатуры без усякай сацыялістычнай рыторыкі. Праўда, там-сям яшчэ можна пабачыць на будынках выявы сярпа і молата.

***— Ці заўважныя змены пасля таго, як у красавіку ў краіне адбыліся дадатковыя выбары ў парламент, дзе з 45 месцаў 43 заняла апазіцыя?***

— Натуральна. Амаль на кожным кроку сутыкаешся з выявай Аун Сан Су Джы, лідара Дэмакратычнай лігі — галоўнай партыі апазіцыі. Яна нядаўна выйшла на волю пасля доўгатэрміновага хатняга арышту, і нават атрымала дэпутацкі мандат. Аун Сан Су Джы, якая, дарэчы, нобелеўскі лаўрэат, мае вялікую папулярнасць, пра што кажуць перадавіцы газет, футболкі і календары з яе партрэтам. Часцей можна бачыць толькі малюнкі Буды. Трэба меркаваць, што ад красавіка гэтага года змены ў М'янме пойдуць яшчэ хутчэй. Краіна яшчэ больш адчыніцца ўсяму свету. Так што пакуль сюды валам не павалілі турысты, яшчэ можна паспець пабачыць гэты дзіўны і экзатычны край.

СПОРТ І ПАЛІТЫКА

# БАСКІ МАРАЦЬ ПРА ЗБОРНУЮ

Алег НОВІКАЎ

**Поспех басксага клуба «Атлетык» (Більбао), які выйшаў у фінал Лігі Еўропы, падштурхнуў мясцовых нацыяналістаў зноў фантазаваць пра стварэнне паўнавартаснай футбольнай зборнай Краіны Баскаў.**



Краіна Баскаў — гэта, акрамя ўсяго іншага, айчына іспанскага футбола. Менавіта тут напрыканцы XIX стагоддзя выпускнікі англійскіх каледжаў, дзе на той час вучылася ўся іспанская эліта, заклалі фундамент першых клубаў на Пірэнеях. Той жа заснаваны ў 1898 годзе «Атлетык» з'яўляецца самым старым клубам іспанскай футбольнай лігі.

Так здарылася, што першыя спартовыя поспехі баскскіх футбалістаў прыйшліся на пачатак XX стагоддзя — час бурнага станаўлення палітычнага руху за незалежнасць Краіны Баскаў. Усё гэта заканамерна спрыяла нараджэнню ідэі пра тое, што Краіна Баскаў вартая быць прадстаўленай у міжнародных футбольных арганізацыях. Так, яшчэ ў 1910 годзе была створаная першая зборная краю — зборная Поўначы, якая гуляла ў турніры з камандамі іншых рэгіёнаў Іспаніі. Першы матч зборная баскаў згуляла ў 1915 годзе супраць каталонцаў і перамагла з лікам 1:0. Праўда, шмат хто з футбольных статыстыкаў вядзе летапіс баскскай зборнай з 1922-га, паколькі за зборную Поўначы па рэгламенту маглі гуляць футбалісты з правінцыі Кантабрыя. А вось з 1922 года Кантабрыя і Краіна Баскаў мелі асобныя каманды.

Дзякуючы грамадзянскай вайне, якая пачалася ў Іспаніі, пра зборную баскаў даведаўся ўвесь свет. Кіраўніцтва Краіны Баскаў, якое дзякуючы прыходу да ўлады левых партый, атрымала аўтаномію, вырашыла сфармаваць зборную і даслаць яе ў тур для збору сродкаў для абароны ад фашыстаў. У красавіку 1937-га пачалося славутае падарожжа баскскай каманды па Еўропе. Зборная правяла 18 сустрэч, гуляла як з клубамі, так і са зборнымі камандамі, прычым вельмі паспяхова. Перамагла вельмі моцную ў даваенныя часы зборную Чэхаславакіі з лікам 3:2.

Найбольшы фурор баскі выклікалі ў СССР, які тады быў саюзнікам рэспубліканскай Іспаніі. Тут госці з Пірэнеяў згулялі 8 матчаў, у тым ліку матч у Мінску супраць зборнай гораду. Лік быў, як кажуць, разгромным — 6:1 на карысць гасцей. Беларусы маглі заспакоіць сябе хіба тым, што хутка зборная Даніі прайграла баскам яшчэ больш ганебна — 1:11.

Увосень каманда пераплыла Атлантыку і згуляла матчы са зборнай Мексікі, Кубы і Чылі. Інтарэс да баскаў быў такі моцны, што федэрацыя футбола Мексікі прапанавала ім застацца ў краіне і адзін сезон пагуляць у мясцовым чэмпіянаце. Баскі далі згоду і запісаліся ў турнір пад назвай Club Deportivo Euzkadi. У тым жа годзе Франка перамог рэспубліканцаў. Баскская аўтаномія была ліквідавана. Нават за выкарыстанне баскскай мовы цяпер пагражаў крымінальны артыкул. Пра вяртанне на радзіму не было і гаворкі, таму гульцы каманды баскаў папросту разбегліся па розных клубах Лацінскай Амерыкі.

Пасля падзення дыктатуры ў Краіне Баскаў зноў пачалі марыць пра сваю зборную. Нейкім чынам аматары дамовіліся пра прыезд у Більбао зборнай Ірландыі. Матч, які быў прызначаны на 16 жніўня 1979 года, адразу выклікаў шмат палітычных скандалаў. Так, адміністрацыя некаторых баскскіх клубаў адмовіла сваім спартсменам у магчымасці гуляць за зборную краю. Мадрыд забараніў выкананне перад пачаткам гульні баскскага нацыянальнага гімну Gernikako Arbola. Калі ўсё ж публіка пачала яго спяваць, прысутны губернатар і мэры гарадоў дэманстратыўна пакінулі стадыён. Матч закончыўся перамогай баскаў — 4:1. Пасля матчу ў горадзе адбылася буйная маніфестацыя прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння.

Нягледзячы на пратэсты Іспанскай федэрацыі футболу, баскская зборная працягнула існаванне. Больш таго, у яе склад пачалі ўваходзіць не толькі баскі з Іспаніі, аднак і баскскія футбалісты з французскай часткі Эўскадзі (іншая назва Краіны Баскаў). Усяго з 1979 года праведзена каля 20 міжнародных сустрэч, якія, як правіла, мелі статус таварыскіх матчаў. Сярод іншага баскі могуць ганарыцца перамогай над Расіяй 1:0 і Сербіяй — 4:0. Апошні матч баскі згулялі супраць Тунісу ў снежні мінулага года і прайгралі 0:2.

Трэба заўважыць, што афіцыйна каманда выступае не як зборнай Краіны Баскаў, а як зборная баскскай аўтаноміі ў складзе Іспаніі. Гэта даўно выклікае канфрантацыю як сярод балельшчыкаў, так і футбалістаў. Некаторыя футбалісты адмаўляюцца гуляць за зборную аўтаноміі і патрабуюць, каб каманда афіцыйна называлася «Зборная Краіны Баскаў».

Галоўным бар'ерам на шляху рэалізацыі мары пра баскскую зборную ёсць 10-ы пункт Міжнароднай федэрацыі футбольных асацыяцый (FIFA), які патрабуе, каб нацыянальная зборная прадстаўляла непасрэдна незалежную краіну.

Ёсць, праўда, выключэнне. Нацыянальная зборная рэгіёну можа гуляць у матчах пад эгідай FIFA пры наяўнасці дазволу з боку Федэрацыі футболу краіны, у склад якой уваходзіць гэты рэгіён. У дадзеным выпадку баскам патрэбна згода ад Федэрацыі футбола Іспаніі. Дэбаты пра такі дазвол цягнуцца з дня адраджэння баскскай аўтаноміі, аднак прагрэсу тут не назіраецца.

Застаецца дадаць, што падобныя праблемы з прызнаннем FIFA мае не толькі Краіна Баскаў. Шматлікія рэгіёны або непрызнаныя краіны таксама не могуць атрымаць сяброўства ў структурах FIFA. Сярод «ізгояў» — іракскі Курдыстан, Косава, Манака, і г.д. Асобная тэма — народы, якія жадаюць гуляць у футбол у рамках зборнай, аднак не маюць адміністратыўных адзінак. Напрыклад, у Фінляндыі існуе зборная лапландцаў па футболу.

Адным з выхадаў стала фармаванне альтэрнатыўнай FIFA. У свеце некалькі падобных арганізацый. Самая вядомая з іх, напэўна, Non-FIFA-Board, якая была створаная ў 2003 годзе. Яе суб'ектамі з'яўляюцца такія экзатычныя арганізацыі, як федэрацыі футболу Аквітаніі, Паданіі, Сіцыліі, Чачэнскай Рэспублікі — Ічкерыя і г.д.

Арганізацыі кшталту Non-FIFA-Board рэгулярна разыгрываюць свае альтэрнатыўныя кубкі свету. Дарэчы, па версіі Non-FIFA-Board, цяперашнімі футбольнымі чэмпіёнамі свету з'яўляюцца тыя самыя лапландцы. У 2006 годзе яны выйгралі арганізаваны гэтай Федэрацыяй сусветны чэмпіянат Францыі.

Аднак наўрад ці зборная Краіны Баскаў будзе спрабаваць атрымаць прызнанне праз гульні з лапландцамі.

Хутчэй за ўсё, баскі будуць спрабаваць паступова даводзіць чыноўнікам FIFA пра неабходнасць прызнання іх сябрамі FIFA. Вялікую ролю тут могуць адыграць і палітычныя змены. Так, голас за нацыянальную баскскую зборную будзе гучней, калі ў наступным годзе нацыяналісты перамогуць на выбарах у парламент аўтаноміі. Ну і, безумоўна, важным імпульсам для новых дэбатаў на гэтую тэму можа стаць перамога «Атлетыка» (Більбао) у кубку Лігі Еўропы. Нагадаем, што фінал кубка адбудзецца 9 мая ў Бухарэсце.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЮЛІЯ ЦІМАШЭНКА



Пасля таго, як у сеціве з'явіліся выявы збітай у турме Цімашэнкі, у свеце пачаўся скандал, вынікам якога можа стаць байкот «Еўра–2012» з боку еўрапейскіх лідараў. Не меншы скандал могуць выклікаць чуткі пра тое, што за кратамі Цімашэнка круціць раман са сваім адвакатам Сяргеем Уласенкам. Падставай для такіх спекуляцый стала таксама стужка, якая надоечы трапіла ў СМІ. На стужцы, што здымалася 14 студзеня, падобныя на Цімашэнка і Уласенку людзі ў турэмных умовах абдымаюцца і цалуюцца. Інтымная сцэна выклікала вялікі ажыятаж, паколькі яўна кампраметуе лэдзі Ю. Апазіцыя ўжо назвала тое відэа правакацыяй. Сам Уласенка лічыць, што яго абдымкі з Юляй — тыповы прымітыўны мантаж. Між тым, нават незалежная прэса не выключае, што Цімашэнку сапраўды магло пацягнуць на амур. Прэса спасылаецца на сведчанне экс-жонкі Уласенкі, якая клянецца, што жэстыкуляцыя мужчыны на стужцы цалкам характэрная для яе былой другой паловы.

### АЛЯКСЕЙ КУДРЫН



Нядаўні кіраўнік фінансавага ведамства Расіі, адпраўлены ў адстаўку пасля гучнага канфлікту з Дзмітрыем Мядзведзевым, па неафіцыйных дадзеных, асабіста сустракаўся з Уладзімірам Пуціным. І той нібы паабяцаў, што, вярнуўшыся ў Крэмль, ён не толькі ўнясе кандыдатуру Кудрына на пасаду старшыні ўрада. Кажуць, што загад пра прызначэнне экс-міністра прэм'ерам будзе ўжо гатовы на пачатку мая. У сваю чаргу, экс-прэзідэнт Мядзведзеў павінен узначаліць створаную адмыслова пад яго Дзяржаўную кампанію па развіцці Усходняй Сібіры і Далёкага Усходу, адправіўшыся на працу ва Уладзівасток. Аналізуючы гэтыя звесткі, можна зрабіць такую выснову: або супярэчнасці паміж камандай Дзмітрыя Мядзведзева і Уладзіміра Пуціна сапраўды дасягнулі такога ўзроўню, калі рэальнасцю стала адмова абранага прэзідэнта ад публічных абяцанняў, дадзеных раней; або ніякай сустрэчы Кудрына і Пуціна не было, і ніякіх абяцанняў Пуцін Кудрыну не даваў. У любым выпадку, усе кажуць пра тое, што доўга Мядзведзеў, схільны да ліберальнай позы, на пасадзе кіраўніка ўраду не пратрымаецца. Таксама звяртаюць увагу на тое, што на днях Пуцін публічна пахваліў Кудрына, які, дарэчы, лічыцца сімвалам прагматычнага курсу ў дачыненні да Беларусі.

### МАРЫЁН МАРЭШАЛЬ ЛЕ ПЭН



Унучка Жан-Мары Ле Пена, заснавальніка партыі «Нацыянальны фронт», і пляменніца Марын Ле Пэн, вырашыла працягнуць сямейную працоўную дынастыю. 22-гадовая студэнтка юрфаку афіцыйна абвясціла пра тое, што будзе балатавацца ў дэпутаты ў парламент ад адной з акруг дэпартамента Ваклюз на поўдні Францыі. Той факт, што Марыён пайшла ў палітыку на фоне поспехаў цёткі, выклікаў вялікі медыя-інтарэс да яе заявы. Некаторыя ўжо бачаць Марыён у ролі пераемніка Марын на пасадзе лідара партыі. Сама дзяўчына адмаўляе абвінавачанні ў непатызме і кажа, што хацела б проста надаць партыі больш малады імідж. У сваю чаргу, журналісты звяртаюць увагу на словы Марыён пра тое, што падацца на выбары яе заклікаў асабіста дзед. Прэса піша, што Жан-Мары стоадсоткава лабіруе ўнучку, паколькі ў Ваклюзе шмат сімпатызантаў «Нацыянальнага фронту», і перамога ў Марыён фактычна ў кішэні. Варта таксама ўзгадаць, што ў свой час Ле Пэна хацелі судзіць за тое, што сваімі антысеміцкімі прамовамі ён справакаваў нейкіх хуліганаў разбурыць яўрэйскія могілкі ў адным з гарадоў гэтага рэгіёну.

МЕРКАВАННЕ

# Алег Хаменка: НАВОШТА ЛЮДЗЯМ ФАЛЬКЛОР?

Сяргей ПУЛЬША

**У мінулыя выходныя ў межах сустрэчы кампаніі «Рок-салідарнасць» адбылася гутарка з лідарам фольк-мадэрн гурта «Палац» Алегам Хаменкам. Ён выказаў шмат цікавых думак, але прызнаўся, што не ведае, навошта людзям фальклор. Ён выступае за новы фальклор, за мадэрн. Хто б сумняваўся: Хаменка сам пачынальнік «новага фальклору».**



## Навошта людзям фальклор?

— Навошта людзям фальклор? Я быў на Віцебшчыне, і мне запала ў розум слова «спадкі». Кшталту: «А прынесла ці ты тыя спадкі»? Потым, калі больш дакладней паразмаўляў, то найбліжэйшы рускі адпаведнік: «пажыткі» ці «барахло».

Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталіся спадкі, спадчына. І мы не ведаем, што з гэтымі спадкамі рабіць. Рэч, якую ты не носіш, ці калі яна ляжыць у шафе, толькі шкодзіць. Можа, камусьці трэба яе падараваць. Можа, спаліць. Вось гэтая праблема, якая ў Беларусі прысутнічае. Я гэта гавару як чалавек, які багата часу аддаў аналізу, збору і прапагандзе фальклору.

Увогуле, паняцце «фальклор» пачало ўжывацца напачатку XIX стагоддзя. Кантэкст быў такі: магутныя імперыі ўжо ўсё пазаваёўвалі. А потым трэба было вывучаць: а што ж яны, карэнныя жыхары, там робяць? Чаму дамаская сталь круцейшая за еўрапейскую? Як вырабляюць мячы японцы? Карацей, гэта было неабходна: вывучаць тэхналогіі, якія былі ў калоніях. І з гэтага пачынаецца пошук і аналіз фальклору. Прычым гэта не толькі тэхналогіі, а тое, што ўвогуле мае гэты народ.

Зразумела, што «выбух імперый» прымушаў цалкам мяняць лад жыцця. Шмат людзей пераязджала ў гарады. Зараз як пятніца — так і свята. А з гэтага і пачынаюцца міжасобасныя стасункі, і пачынаецца фальклор. Гэтыя праблемы зараз балюча-балюча адбіваюцца на Заходняй Еўропе, мы бачым, як стогне тая ж Германія, і мы яшчэ пабачым гэтыя праблемы на ўласным досведзе. Прыціскаць мігрантаў не можна — гэта фашызм. А калі тыя ўжо на галаву селі... Таму такая вось рэч... Мы такія талерантныя, мы такія радыя. «Прыязджайце, тэрарысты, у нас воздух чыстычысты!» Але насамрэч, калі вы будзеце размаўляць не з мікрафонам, а са сваімі сябрамі, вы пачуеце іншае: «Хутка Беларусь будзе кітайскай. Людзі з Усходу апанавалі ўсе базары». Такія размовы сапраўды адбываюцца, і ніхто ў грамадстве не звяртае на гэта ўвагу.

Мы развіваем «сядзібны турызм». «Едзьце да нас. Прывозьце толькі вашыя грошы». Так не бывае. З той прычыны, якой людзі бачаць Беларусь, і якой яе бачым мы. Мы бачым яе з аднаго боку, а замежнікі глядзяць на яе зусім з іншай пазіцыі.

Фальклор падзелены на чатыры асноўныя часткі. Не трэба лічыць, што фальклор — проста спевы і вышыванкі. Гэта і культура, і архітэктура, лад жыцця, вусная і вербальная творчасць, музыка, святочна-абрадавыя рэчы. І ўсе гэтыя чатыры пазіцыі, канешне, перасякаюцца.

Чаму я пра гэта кажу? Таму што іншым часам у нашых чыноўнікаў стаўленне асаблівае: «Хаменка, ідзі сюды, раскажы нам гэтую казку пра фальклор». Проста ў чалавека не трансляваліся нашы каштоўнасці. А вось калі ў якую-небудзь краіну прыязджаюць кітайцы ці арабы, то яны вязуць з сабой усё. Кніжкі, адзенне, традыцыі, лад жыцця, святы. А беларус, як толькі пераязджае ў Галандыю, — ён праз тры тыдні галандзец.

Нічога мы туды не вязем. Усе нашы дыяспары (а я пабачыў дыяспары па ўсім свеце) папросту перасталі асэнсоўваць сябе беларусамі. У Калінінградзе, напрыклад, было трыста тысяч беларусаў. Зараз іх засталося дзвесце тысяч. То бок, за апошнія восем гадоў мы згубілі сто тысяч беларусаў. А з чым гэта звязана? З тым, што не адчуваем, што мы народ, не адчуваем сваіх традыцый і фальклору.

## Новы фальклор

— Зараз моладзь яднаецца па розных прычынах. Металісты. Хіпстэры. Рокеры-шмокеры. У іх з'яўляюцца свае артэфакты. Свая культура. Свая мова. У тых жа самых хіпстэраў і панкаў свой слэнг і свая субкультура. У іх ёсць свае абрады і традыцыі, яны аднаўляюць новую фальклорную схему. Той жа прафсаюз кавалёў. У іх ёсць свае словы, свае рэчы. І тым самым яны захоўваюць нейкую дзяржаўную рэч. І дзяржава развіваецца за кошт таго, як будзе развівацца ўся гэта схема. І гэта значна больш актуальна, чым танкі і гарматы.

Танкамі можна было Афганістан праехаць на дзень. І англічане, і амерыканцы, і Савецкі Саюз яго заваёўвалі. І дзе яны зараз? А ў Афганістане ёсць традыцыі. Прычым вельмі жорсткія традыцыі. Гэтыя ўплывы культуры значна больш важныя за танкі і гарматы. Навошта людзей забіваць, калі іх можна зрабіць ваімі грамадзянамі?

У нас пакуль не распаўсюджана такая рэч, як «рамантычны нацыяналізм». Гэтая рэч звязаная з гонарам за нацыянальныя каштоўнасці. Нацыя — гэта і грамадства. І шмат людзей, якім далі вялікія грошы на пошук «нацыянальнай ідэі». У выніку яны так нічога і не знайшлі, грошы раздзярбанілі, але не знайшлі.

Але, тым не менш, любая краіна абвяшчае сваю нацыянальную ідэю. Кітай — «Паднябесная». Амерыка — «Краіна Мары». І калі я кажу, што не хачу жыць у Амерыцы, яны гэтага проста не разумеюць. Расія — «Русь Святая». Рускія крадуць і бухаюць, яны п'яныя, але «святыя». А што мы можам абвесціць у Беларусі? Сціснуць да двух-трох словаў нацыянальную ідэю? Гэтай пазіцыі пакуль што няма.

## «Песняры» і ўсе, усе, усе

— «Песняры» прайшлі вельмі цікавы цыкл, які пачынаўся ад беларускага фальклору. І «Касіў Ясь канюшыну». І «Скрыпяць мае лапці». Але прайшоў час. Хлопцам захацелася есці. І з'явіліся выдатныя рэчы — «Вологда», напрыклад. Зараз ёсць шмат гуртоў па фальклоры. І «Стары Ольса», і «Бан Жвірба» з Гомелю. Яны атрымалі неблагія водгукі. Але зараз тэксты проста незразумелыя. І я пакідаю ў сябе ў тэксах нейкія незразумелыя словы, таму што шкада выкідваць. Я зараз пяю па-беларуску, як «Нагуаль» спявае на па-эльфійску.



http://pan_nav.blog.tut.by

Нашто людзям фальклор? Ці яго выкінуць, ці яго спаліць? Ці рухацца ў бок неафальклору?

## Што такое неафальклор?

— Усе святы Беларусі, мова, так ці інакш звязаныя з сельскагаспадарчымі працамі. Што такое Першамай для беларуса? Бульбу садзіць!

Нам патрэбныя новыя сімвалы. Надакучыў бусел, надакучыў зубр. Нам патрэбныя новыя сімвалы і новы фальклор. Але гэтага ніхто не робіць. Трэба хоць штосьці здзейсніць. — хоць вожыка на пустое месца прапанаваць. Як гэта рабіць? З кім гэта рабіць? Вось таго я не ведаю...

Вельмі неабходны Мінску помнік не канфесійны, а помнік Маці Божай. Якая прысутнічае на выяве герба Мінска. Вельмі цяжка казаць, што такі помнік быў бы шкодны. Ён бы быў вобразам новай Беларусі ці вобразам Мінска. Гэта была б такая рэч, як Эйфелева вежа ў Парыжы. Бо ў Маці Божую Вострабрамскую, якая ў Вільні, мы ўжо не верым, нам трэба свой сімвал тут, у Мінску. Але вось як зрабіць, каб усё грамадства добразычліва паставілася да гэтай ініцыятывы — я разгубіўся. Хто можа з такой ініцыятывай выступіць, каб да яе добразычліва паставіліся «чырвоныя», «зялёныя», «блакітныя», «ружовыя»? Хто можа з такой ініцыятывай выступіць? Хай гэты помнік адчыняе прэзідэнт, але ці ўспрымем мы гэта добразычліва?

Я шукаю нейкі вобраз, нейкі помнік, які быў бы прыняты ўсімі. Ну, «усімі» — гэта гучна сказана. Але большасцю беларусаў ён быў бы прыняты добразычліва.

## Казкі

— У мяне няма адказу на тое, навошта людзям фальклор, таму што я ўсё жыццё збіраю фальклор, я збіраю прыказкі, прымаўкі, казкі. Я знайшоў казку, якую я распавядаю 53 хвіліны. І гэта настолькі проста, настолькі цікава, што слухаецца! Між тым, у беларускім фальклоры практычна няма казак з «хэпі-эндам»: «Па вусах цякло, у рот не папала». Беларускія казкі практычна ўсе «андэрсанскія».

## Забарона гуртоў

— Кажуць, мы крамольныя рэчы гаворым. Ды няма тут нічога крамольнага!

Бліжэйшым часам вялікіх канцэртаў «Палаца» не будзе. Мы самі адмовіліся ад білетных касаў. Магчыма, фестываль «Вольнае паветра» яшчэ вытрымае наш выступ. Але ў гэтым годзе «Палацу» 20 гадоў, і, хутчэй за ўсё, святкаванне адбудзецца не ў Беларусі.

Я вельмі хацеў зрабіць юбілейны канцэрт, новую праграму ў Беларусі. Але мае сябры кажуць: «Зрабіце ў Вільні, у Смаленску». Ёсць маскоўскія сябры, якія прапануюць зрабіць канцэрт у Маскве. Але мне хочацца граць тут.

Пра забарону канцэртаў мне кажуць: «Нічога асабістага, проста бізнэс». Але гэта ж гэтая фраза належыць гангстэрам у Амерыцы ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. І менавіта так яны апраўдвалі свае дзеянні.

ФЭСТ

# СВЯТА СТАРАЖЫТНАЙ МУЗЫКІ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**27–29 красавіка ў Мінску адбыўся XI міжнародны фестываль сярэднявечнай і фальклорнай музыкі «Дударскі фэст–2012». Сапраўднае свята для шматлікіх прыхільнікаў старажытнай музыкі, бо на фестывалі, як заўжды, былі прадстаўлены авангард айчыннай медыевальнай сцэны, навінкі ад лідараў дударскага руху Беларусі.**



Гурт «Cornucopia»



Андрэй Апановіч LITVINTROLL



Зміцер Сасноўскі



Гурт «ESSA»

Адна з пастаянных задач «Дударскага фэсту» — пошук такой канцэртнай формы, якая б была цікавая слухачам і захапляла выканаўцаў. Бо ад іх узаемаадносін якраз і залежыць поспех альбо няўдача імпрэзы. Таму на мінулагодніх «Дударскіх фэстах» былі прадстаўлены рознабаковыя аспекты існавання беларускай дударскай традыцыі ў кантэксце еўрапейскай: беларускія слухачы даведаліся, як гучаць розныя тыпы інструментаў, пазнаёміліся з выканаўцамі з Польшчы, Японіі, Эстоніі, Латвіі, Расіі.

Своеасаблівую сенсацыю (і дыскусію) зрабіла жаночая традыцыя грання на дудзе, што пачынае нараджацца ў краіне. Прыемна, што беларускія дзяўчыны стварылі на сцэне цудоўны музычны вобраз з выразным славянскім жаночым шармам (гляньце на здымкі дзяўчат з дудамі ў альманаху «DUDAR»!). Гэты сінтэз робіць наш дударскі рух больш разнастайным і прывабным.

Нельга не ўспомніць і нараджэнне такога стылістычнага спалучэння, як выкарыстанне дуды ў беларускіх рок-гуртах. Арганізатары цудоўна разумеюць важнасць развіцця дударскай традыцыі ў межах сучасных стылістычных напрамкаў.

Вось і «Дударскі фэст–2012» займеў сваю разынку. Арганізатары абвясцілі, што яго лейтматывам стане выкарыстанне дуды разам з электроннай музыкай, а таксама ў ды-джэйскіх сэтах.

Праўда, першы дзень «Дударскага фэсту» быў аддадзены беларускай традыцыі ў чыстым выглядзе: у холе Палаца ветэранаў граў малады дударскі гурт «Тутэйшыя», а на сцэне валадарылі тыя, хто сёння вызначае стан айчыннай дударскай школы. Першымі на сцэну выйшлі ўдзельнікі івянецкага дзіцячага гурта «РАРОГ», якім кіруе былая ўдзельніца гурта «Стары Ольса», а цяпер педагог Кацярына Радзівілава. Інструментальны склад гурта «РАРОГ» — два шалмеі, дуда і бубен. Нягледзячы на невялікі склад, гурту пад сілу выконваць даволі складаныя інструментальныя п'есы — як сярэднявечныя, так і фальклорныя. Слухачы цёпла прымалі такія вядомыя дударскія мелодыі, як «Верабей», «А мой дзядзька дуднік быў», што надало юным музыкантам імпэту і добрага творчага настрою да наступнага «Дударскага фэсту».

Дударскі дуэт Дзяніс Сухі (які граў на мацынцы — трохбурдоннай, безрагаўнёвай дудзе сваёй вытворчасці) і Стась Чавус парадавалі слухачоў яркім выканаўчым майстэрствам: гучанне іх інструментаў адрознівалася чыстатой тэмбраў, глыбінёй дудовага гуку і выразнай танцавальнасцю. Здаецца, музыкі толькі што сышлі з подыума сельскай карчмы. Іх рэпертуар складаўся з музыкі XIX–XX стагоддзяў — найгрышаў вядомых беларускіх дудароў мінулага: беларускай «Полькі», «Мяцеліцы», малавядомай версіі «Лявоніхі». З часам да дуэта Сухі—Чавус далучыўся бубнач Яўген Барышнікаў, а Стась узяў у рукі скрыпку. Так утварыўся традыцыйны гурт «траістых музыкаў», толькі ў яго складзе дамінавала дуда Дзяніса, што было характэрна для сельскіх капэл яшчэ да з'яўлення на беларускіх землях гармоніка.

Гурт абрадавага фальклору «ESSA» вітаў слухачоў змененым складам. Цяпер у ім граюць дудар Тодар Кашкурэвіч, вакальныя партыі выконвае Вольга Кашкурэвіч, на скрыпцы грае і спявае Кацярына Радзівілава. Як зазначыў Т. Кашкурэвіч, галоўная мэта музыкантаў — перадаць слухачам адчуванне эмоцый, якую геніяльна ўклалі нашы продкі ў спеўны фальклор. «Фальклор не можа быць гісторый, ён жыве ў нашай рэчаіснасці», — падсумаваў Тодар.

Сапраўды, у выканні «ESSA» прагучалі песні каляндарнага цыклу: «Юр'я-Цмок», рэлігійны спеў «Замова да Пяруна», вядомы танец «Таўкачы» ў мінорнай танальнасці. Поспеху гурта «ESSA» спрыяла высокае выканаўчае майстэрства і аўтарскае прачытанне даўніх узораў народнай творчасці, след якіх губляецца ў стагоддзях. Асабліва хацелася б звярнуць увагу на вакальныя магчымасці Вольгі Кашкурэвіч, якая зачаравала слухачоў экспрэсіўнасцю спеваў і заглыбленасцю ў фальклорную тэму.

Першы дзень «Дударскага фэсту» завяршыў гурт «Стары Ольса», музыканты якога выканалі творы эпохі Рэнесансу і ранняга барока. Асаблівай шляхетнасцю вызначаліся адносіны ольсаўцаў да «Полацкага сшытка». Зразумела, справа рэканструкцыі гэтага музычнага помніка — вельмі тонкая і патрабуе шмат ведаў па сярэднявечнай тэматыцы. Гэтыя веды музыканты маюць, таму факт застаецца фактам: апрацоўкі «Полацкага сшытка» ад «Старога Ольсы» — узорныя для айчыннай медыевальнай сцэны. У гэтым наведвальнікі «Дударскага фэсту» ўпэўніліся, калі гучалі такія п'есы з «Полацкага сшытка», як «Танец у балканскім стылі», «Пастыр», «Немец», «Ягелонскі танец» ды іншыя.

Акрамя гэтых мелодый, музыканты выканалі і некалькі твораў, якія раней былі мала вядомы слухачам. Такім сюрпрызам стала кампазіцыя «Маці-каралева» з адной з еўрапейскіх музычных партытур мінулага. «Маці-каралева» — твор рэлігійны, баладнай структуры, які мае больш за дваццаць вершаваных слупкоў. Удзельнікі «Старога Ольсы» пераклалі тэкст на беларускую мову і гарманізавалі яго для гурта старажытнай музыкі. Увогуле, новая кампазіцыя ў выкананні «Старога Ольсы» прагучала манументальна і сугучна з беларускай музычнай традыцыяй. Такія ўражанні ад беларускай і еўрапейскай музыкі мінулага сталі галоўнымі чыннікамі першага дня «Дударскага фэсту».

Другі дзень «Дударскага фэсту» быў прысвечаны традыцыйнай «Дударскай канферэнцыі», якая прайшла на свежым паветры ў музейным комплексе «Дудуткі». Не ўсе слухачы змаглі туды патрапіць, таму арганізатары фестывалю прадублявалі музычную праграму ўжо ў сталічным клубе «RE:PUBLIC». У рамках гэтай часткі праграмы выступілі ўжо знаёмыя па першаму фестывальнаму дню выканаўцы: гурт «Тутэйшыя», «траістыя музыкі» Д. Сухі, С. Чавус, Я. Барышнікаў. І завяршыў першую частку апошняга дня фестывалю гурт «Стары Ольса». Іх сэты паўтарылі праграмы першага дня, як і слухацкую рэакцыю на іх выступы. Таму засяродзімся на тым, што новага чакала слухачоў па завяршэнні фэсту.

**«Дударскі фэст–2012» займеў сваю разынку. Арганізатары абвясцілі, што яго лейтматывам стане выкарыстанне дуды разам з электроннай музыкай, а таксама ў ды-джэйскіх сэтах**

Першай такой «навінкай» стаў выступ гурта дударскай музыкі «CORNUCOPIA» з салістамі на галісійскай гайце Зміцерам Шыманскім і Ягорам Кацючэнкам. Гурт арыентуецца збольшага на еўрапейскую музычную традыцыю і адпаведны рэпертуар, а гучанне «CORNUCOPIA» наблізілася да чыстага дударскага, без нейкіх музычных дамешкаў. Хоць гурт па сваёй спецыфіцы застаецца інструментальным, у рэпертуары ёсць вакальныя творы, у тым ліку і беларускага паходжання. Адзін з іх — «Рэкруцкая» — выклікаў асабліва шчырыя апладысменты слухачоў і арганічна завяршыў праграму «CORNUCOPIA».

Міжнародная частка фэсту была прысвечана музыцы Польшчы, Усходняй і Паўночнай Еўропы, якую прапанаваў слухачам гурт сярэднявечнай музыкі са Шчэціна «TRYZNA» пад кіраўніцтвам М. Матыня (Michal Matynia). У складзе гурта шмат старажытных інструментаў: галісійская гайта, цыстра, шведская nyckelharpa і інш. Беларускія слухачы высока ацанілі выканаўчае майстэрства і арыгінальнасць аранжыровак гасцей і воклічамі «брава!» выказвалі спадзеў на новыя музычныя сустрэчы.

Своеасаблівую сенсацыю стварыла суполка дудароў, якія своечасова вярнуліся з «Дударскай канферэнцыі» ў Дудутках. Абяцаны арганізатарамі імправізацыйны сэт з удзелам ды-джэя Паўла Бальцэвіча падтрымалі сваім дударскім імпэтам Дзяніс Шматко («Тутэйшыя»), Зміцер Сасноўскі, Сяргей Тапчэўскі («Стары Ольса») і Дарэк Джаман («TRYZNA»). Іх імправізацыі адрозніваліся спантаннасцю, і ў той жа час гарманічнай зладжанасцю з сучаснымі электроннымі рытмамі ды-джэйскіх прылад. Малады люд выкарыстаў магчымасць ад душы патанчыць і навучыцца старажытным па ў танцавальных гуртоў «Яварына», «Ды Грыза», «Фламея», «Гістрыён».

Праект «PAWA», заснавальнікамі якога з'яўляюцца Юрась Панкевіч і Мікіта Седзянкоў, прапанаваў слухачам сваё разуменне сінтэзу сучаснасці і старажытнасці. Іх дыска-фолк заснаваны на выкарыстанні дыскатэчных рытмаў, тэмбраў сінтэзатараў, драйву струнных інструментаў і фолькавага гучання беларускай дуды. Па сутнасці, «PAWA» — пост-фолк-мадэрнавы гурт, які пашырае веды моладзі пра айчынны фальклор з дапамогай папулярных рытмаў і рок-аранжыровак. Таму менавіта музыкі гурта «PAWA» падрыхтавалі слухачоў да супер-моцных уражанняў, якія выклікалі ў іх лідары айчыннай фолк-рок-сцэны — гурты «Кашлаты Вох» і «LITVINTROLL».

Ва ўступным слове да слухачоў і ўдзельнікаў «Дударскага фэсту–2012» яго заснавальнік Тодар Кашкурэвіч адзначыў, што адроджаная дударская школа Беларусі — самая аўтарытэтная ва Усходняй Еўропе. І сёлетні «Дударскі фэст» даў новыя падставы для такога сцвярджэння. Хаця і не гарантаваў спакою яго арганізатарам у новым дударскім сезоне.

КІНО

# НЕФАРМАТНАЕ «НЕБА»

Андрэй РАСІНСКІ

**Сацыяльная стужка «Вышэй за неба» паводле сцэнару Андрэя Курэйчыка, знятая па замове ААН, яшчэ да свайго выхаду на беларускія экраны выклікала скандал. Андрэй Курэйчык вінаваціць ААНаўскіх чыноўнікаў у цэнзуры. Тыя лічаць, што драматург парушыў кантракт.**






Год таму Андрэй Курэйчык падзяліўся ідэяй: «Можна зняць добрую стужку пра Беларусь. Гэта будзе фільм пра юнака, які заразіўся ВІЧ. Серыял па замове прадстаўніцтва ААН. Мусіць атрымацца». У гэтым праекце Андрэй Курэйчык — сцэнарыст і крэатыўны прадзюсар. Я ветліва згадзіўся з энтузіязмам мастака, хаця ягоныя нататкі да фільму выглядалі інсцэнаванай сацыяльнай рэкламай.

У гісторыі кіно было няшмат выпадкаў, калі рэклама станавілася самастойнай стужкай. Барыс Барнэт паставіў у 1927 годзе кінакамедыю «Дзяўчына з кардонкай», што рэкламавала латарэю (латарэя знікла, фільм застаўся). Нямецкія авангардысты 20-х гадоў падзаралі ў рэкламных стужках подпісы — і атрымлівалі кінаэксперыменты (захаваліся ў музеях). Серыя класічных амерыканскіх мультфільмаў пра вірлавокага марака здымалася на грошы шпінатных кампаній — герой сілкаваўся шпінатам, і продажы зеляніны падскочылі да нябёсаў. Але гэта рэдкія прыклады. У сучасным кіно навязлівая рэклама рэжа вочы, што асабліва заўважна ў расійскіх карцінах (над сцэнарам самай касавай з іх «Любошчы-мілошчы» працаваў Андрэй Курэйчык).

Але нават чарнавая нарэзка матэрыялаў — без падабранага гуку і каляровай карэкцыі, што выпала пабачыць два месяцы таму, — здзівіла. Амаль чатырохгадзінная зборка абяцала не толькі серыял, але і дынамічны поўнаметражны фільм.

Сацыяльна-рэкламныя чыннікі стужкі нікуды не падзеліся, але яны былі шчыльна ўплеценыя ў канфлікты. Нефармальныя музыкі — і іхнія бацькі-міліцыянты, падступныя рэктары-пляткары і закаханыя прыгажуні, камічныя алкагалічкі і фатальныя ўтрымальніцы наркапрытонаў гаварылі пра СНІД, жыццё і права на свабоду.

Прафілактычны ролік на 8 серый нечакана вырастаў у жывы і сумленны партрэт пакалення. Наступны чарнавы накід толькі прадчуванні пацвердзіў. Акрамя серыялу — тэлевізійна разважанага — атрымлівалася ўдарная і праўдзівая, як рок-музыка, стужка. За такой карцінай палявалі б маладыя людзі, глядзелі б яе на дысках і вышуквалі ў сеціве. Тэлевізійны серыял узмацніў бы розгалас.

Але кіраўніцтва ПРААН адхіліла ад працы ўсю творчую групу, уключна з рэжысёрам Дзмітрыем Марыніным, аператарамі і сцэнарыстам. Пры гэтым Марыя Маліноўская, прадстаўніца Праграмы развіцця ААН, заявіла для прэсы, што на працягу месяца будзе зладжаны прэс-паказ першай серыі фільму, а чыставы мантаж вядзе «працоўная група».

Са словаў Андрэя Курэйчыка, у гэтую групу ўваходзіць адзін (малады) чалавек, які ўпершыню бачыць колькігадзінныя матэрыялы. «Любая праца над сцэнарам і фільмам без сцэнарыста, рэжысёра і аператараў з'яўляецца творчым забойствам дадзенага праекта», — заявіў драматург.

У сваю чаргу, Андрэя Курэйчыка абвінавацілі ў залішняй актыўнасці і парушэнні кантракту: «Ёсць факт парушэння кантрактных абавязанняў, якую б лірыку мы ні разводзілі... ПРААН як праваўладальнік ніякіх відэаматэрыялаў нікому для стварэння нейкай версіі не перадаваў».

Курэйчык тлумачыць такую пазіцыю палітычнай цэнзурай: «Матэрыял падаўся выклікам для дзяржаўных каналаў... Яны... і вырашылі на мантажы адхіліць творчую групу. Але творчая група аказалася хітрэйшай, таму што паспела зрабіць кіно». Цяпер стваральнікі просяць гэта кіно дазволіць. Каб узмацніць percaмоўныя пазіцыі, актрыса Вольга Курэйчык забараніла выкарыстоўваць свой вобраз у карціне, спаслаўшыся на парушэнні працоўнага заканадаўства.

Парадаксальна, але поўны — серыяльны — варыянт стужкі, зляпаны без удзелу здымачнай групы, пагражае стэрылізаваць праект не толькі і не столькі выкіданнем з фільму забароненых літаратараў ды музыкаў, колькі знішчэннем гучнага маладзевага драйву. Застанецца драйв чыноўніцкі — акурат для пенсіянерскага БТ.

Але ці варта хаваць забароненае неба, да якога маладыя гледачы ўсё роўна дацягнуцца?

КІНО

# АПОШНІ ДЫКТАТАР ПЕРАМОГ

Андрэй СЕМАШКЕВІЧ

**«Апошні дыктатар Еўропы» перамог на Лонданскім фестывалі незалежнага кіно — галоўным форуме для малабюджэтнага і небюджэтнага кіно ў Вялікабрытаніі.**




Дакументальны фільм, заснаваны на падзеях вакол прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, знялі Мэцью Чарльз і Хуан Луіс Пасарэлі і агучыла вядомая брытанская актрыса Джаана Ламлі.

Фільм складаецца з некалькіх эпізодаў, разбітых саркастычнай анімацыяй Хуана Луіса Пасарэлі з найбольш адыёзнымі цытатамі беларускага прэзідэнта. Цэнтральнае месца ў стужцы займае барацьба сваякоў кандыдатаў у прэзідэнты за іх вызваленне і паляпшэнне палітычнай абстаноўкі ў краіне.

Сястра Андрэя Саннікава Ірына Багданава і дачка Уладзіміра Някляева Ева да падзей снежня 2010 года не мелі аніякага дачынення да палітыкі, але жорсткае падаўленне акцыі пратэсту і масавыя арышты змянілі іх жыццё. Жанчыны выступаюць у Еўрапарламенце, сустракаюцца з еўрапейскімі палітыкамі, выступаюць у прэсе, робяць усё магчымае, каб сітуацыя ў Беларусі атрымала міжнародны рэзананс. На фоне іх асабістай драмы разгортваецца кінагісторыя беларускай палітычнай трагедыі.

Падзеі 19 снежня прадстаўлены доўгімі кадрамі збіцця мітынгоўцаў на плошчы Незалежнасці, інтэрв'ю Ірыны Халіп у прамым эфіры радыё «Эхо Москвы», нападам на Някляева на Нямізе. Аўтары фільма заяўляюць пра правакацыі падчас штурму Дома ўрада, пра збіццё і арышты кандыдатаў у прэзідэнты ў ноч выбараў. Эксклюзіўнага відэаматэрыялу, зробленага ў Беларусі, няшмат, што не здзіўляе: у Беларусь Мэцью Чарльз прыязджаў пад прыкрыццём студэнта, які вывучае рускую мову, а ўсе здымкі ажыццяўляў у выключнай сакрэтнасці.

Пра палітычны пераслед, атмасферу страху ў грамадстве, працу спецслужбаў, судовае бяспраўе і катаванні ў турмах распавядаюць Андрэй Дзмітрыеў, Алесь Міхалевіч, Леанід Навіцкі. Фільм не адкрывае нічога новага дасведчанаму беларусу, аднак дзякуючы яму з сітуацыяй у Беларусі пазнаёміцца замежны глядач. У аўтараў фільма вялікія надзеі на фестывальны поспех фільма, і яны ўжо пачынаюць спраўджвацца.

Мэцью Чарльз рабіў фільм на ўласныя сродкі: бюджэт стужкі склаў 16 тысяч еўра. Гэта другі фільм Мэцью Чарльза пра Беларусь, у 2010 годзе ён зрабіў фільм для BBC «Пастаноўка рэвалюцыі» пра беларускі «Свабодны тэатр».

P. S.: Праз 5 хвілін пасля пачатку паказу фільма, які ладзілі ў Мінску 30 красавіка ўвечары прадстаўнікі «Свабоднага тэатру», у памяшканне ўварваўся спецназ міліцыі. Усіх 20 гледачоў паставілі тварам да сцяны, а потым завезлі ў РУУС Савецкага раёна. Там затрыманых апыталі, сфатаграфавалі і ўзялі ў іх адбіткі пальцаў, а праз 3 гадзіны ўсіх гледачоў адпусцілі.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**Мюзэта — ласкавая і абаяльная**



Гэта пухнатая котка з неверагодна мяккім футрам пяшчотнага колеру: персікава-дымчаты з белым. Котцы каля 2–3 гадоў.

У Мюзэты лёгкі і бесклапотны характар, яна нечым нагадвае кацянё. Пры першым знаёмстве можа саромецца, але хутка адтайвае і заўсёды з удзячнасцю ставіцца да людской увагі. Мюзэта — ахайная і выхаваная. Яна спраўна ходзіць у латочак. Стэрылізаваная і гатовая да пераезду ў новую сям'ю.

Котка знаходзіцца ў валанцёраў прытулку «СуперКот», якія забралі яе з пункту адлову. Калі вы гатовыя падарыць Мюзэце сапраўдны дом — тэлефануйце 8-029-153-85-71 (Ганна).

**Лексі — помесь заходнесібірскай лайкі**

Яна была выратаваная ад лютых маразоў разам са сваім шчанюком. Лексі — вельмі актыўная паскакушка, цудоўны кампаньён для гульняў.

Эмацыйная, але паддаецца выхаванню. Цалкам арыентаваная на чалавека, чыя ўвага — самы жаданы падарунак для Лексі. Ёй каля трох гадоў, ростам каля 50 сантыметраў. Рыхтуецца да стэрылізацыі. І чакае свайго гаспадара ў валанцёра прытулку «СуперПёс».

Не хапае ў жыцці пазітыву? Знаёмцеся з Лексі! 8-029-775-57-53 (Анастасія).



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП "Плутас-Маркет". г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 411367

Падпісана да друку 04.05.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.